—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
7
ЧЭРВЕНЯ
1991 г.
№ 23 (3589)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)





Сялянскія дзеці... Як і сто гадоў назад!..

Фота А. КЛЕШЧУКА.

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**




*Да II з'езда ТБМ імя Ф. Скарыны*

# ДАПАМАЖЫЦЕ САБЕ, БЕЛАРУСЫ!

Апынуўшыся ўпершыню ў Мінску, прыемна адзначаеш чысціню на вуліцах, багацце кветак, зелені... На вуліцах горада бачыш культурных, выхаваных людзей.

Аднак мне, чалавеку з другой рэспублікі, кідаецца ў вочы не толькі гэта. Шыльды (іх шмат, як файных, так і зробленых без густу), інфармацыя на прыпынках гарадскога транспарту, аб'явы ў самім транспарце (акрамя метро) чамусьці толькі расейскай мовай! Мімаволі ўзнікае пытанне: чыя сталіца — Мінск? «Северо-западного края единой и неделимой»? Ці — Беларусі? Калі Беларусі, дык і мова выканання павінна быць, зразумела, беларускаю. Чаму не ўзнікаюць падобныя пытанні, напрыклад, у суседняй Літве? Усе шыльды, аб'явы, рэклама там палітоўску. Можа, таму там ніхто не саромеецца размаўляць роднай мовай і не адчувае комплекс у нацыянальнай непаўнавартасці?

Праўда, апошнім часам пачалі з'яўляцца і шыльды пабеларуску. Але сям-там трапляюцца памылкі. На чыгуначным вакзале, напрыклад, Беларусь стала «Белорусью», а на адным тралейбусе «Паўднёвы Захад» стаў «Поўднёвым Заходом».

Спыніцеся на хвілінку, самі прыглedзьцеся: калі над крамай шыльда на беларускай мове, то на вітрынах той жа крамы надпісы на рускай. Ці наадварот. Навошта гэта блытаніна?

«Пакутуе» і руская мова. На новай (!) станцыі метро «Купалаўская» ў аб'яву на рускай мове над эскалатарам патрапіла беларускае слова «лялек».

Аб'явы на мінскіх вакзалах і ў аэрапортах робяцца толькі па-руску. У нашым жа пераважна расейскамоўным Днепрапятроўску, дарэчы, аб'яўляюць украінскай і рускай мовамі. У нас на Украіне такія ж праблемы з нацыянальным адраджэннем, як і на Беларусі, але ў нас, вядома, ёсць моцны духоўны цэнтр — Заходняя Украіна, адкуль ідуць хвалі нацыянальнага адраджэння. На Беларусі, як я ведаю, такога цэнтра няма. Ці стане Мінск не толькі афіцыйнай, геаграфічнай, але і духоўнай сталіцай Беларусі — залежыць ад вас, беларусаў. Лічу, што беларуская мова такая ж паўнацэнная, як і італьянская, украінская, французская... як кожная мова ў свеце. Яна мае правы на жыццё. Дык дапамажыце ёй у гэтым, Беларусы!

**Аляксей СТРЭЛЬНІКАЎ.**
г. Днепрапятроўск.

# НАВОШТА ПАДРАБЛЯЦЦА?

Кожны народ ужывае свойскія назвы чужых гарадоў, з якімі мае транспартную сувязь. Назва тая быццам «прысвойваецца» ў мове народа. Чаму вы, нашы суседзі, падрабляецеся пад «інтэрнацыянальны эталон» і ўжываеце «Вільнюс» замест «Вільня»? Няёмка чытаць на аўтобусе шыльду «Ваўкавыск — Вільнюс». Чаму першае — па-беларуску, а другое — па-руску? Латышы, напрыклад, заўсёды пішуць Вільня, Плэскава, калі аўтобус ідзе ў Вільню альбо Пскоў. эстонцы той жа Пскоў клічуць Піхква, а Рыгу — Ріія, і ніхто не крыўдзіцца. А вы пачалі з польска-рускага перараблць беларускія гарады на Мінск, Гродна, Міоры і г. д..

**Валдас БАНАЙЦІС.**
г. Н. Вільня.

# ВЫРАТАВАЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ПРЭСУ

Колісь М. Горкі мовіў «Глупо, как факт». Менавіта так можна ахарактарызаваць сённяшняе, вартае жалю, становішча беларускамоўнай прэсы на Беларусі. Прыкра і балюча, што толькі 16,2% выданняў на радзіме выходзіць па-беларуску. Але гэта толькі пачатак. Уступаючы ў рынак, мы сталі сведкамі рэзкага павелічэння колькасці перыядычных выданняў, якія, нібы грыбы пасля дажджу, з'яўляюцца на свет. Брэстчына — не выключэнне. Амаль усе яны — рускамоўныя, нягледзячы на тое, што былі створаны альбо напрыканцы мінулага года, альбо ўжо ў гэтым, пад час, калі Закон аб мовах у Беларускай ССР уступіў у моц. Што гэта, як не з'ява ігнаравання закона?

Як ні круці, а пануюць у рэспубліцы рускамоўныя выданні. Гэта відавочна. Але што будзе з беларускамоўнай прэсай? Хутчэй за ўсё... яна знікне ў віры рынку. Пад удар паставіцца нацыянальнае адраджэнне, бо, як ні жорстка гэта гучыць, яно стане «нявыгадным». Такая несуцяшальная рэалія.

Што ж рабіць? Грэбаваць нацыянальным багаццем? Прабачце: такой раскошы сабе дазволіць нельга. Застаецца адно — перадусім **трэба ўраўняць прэсу ў правах** (гаворка, безумоўна, ідзе пра Беларусь). А такое станецца магчымым, калі **ўся яна зробіцца беларускамоўнай.** Толькі тады можна будзе гаварыць пра канкурэнцыю, пра мацнейшых і слабейшых.

Але, як сведчыць практыка, закон ёсць, а беларускамоўных выданняў штосьці не большае. Дык ці не час правіць рашучасць у гэтым пытанні «вершителям судеб»? Пакуль не позна...

**Юрась ДУБІНА.**
г. Столін.

# ЧАМУ ВУЧАЦЬ ДЗЯЦЕЙ?

Сёння перавучваюць нас, дарослых, за тыя памылкі, якія ўсім адкрыліся. А чаму вучаць нашых дзяцей? Мяркуйце самі.

Чытаю свайму ўнуку беларускі буквар. На старонцы 110 чытаю: «Усе народы жывуць у адзіным саюзе, разам будуюць камунізм. Гэта наша Радзіма».

— А Беларусь чыя Радзіма? — пытаецца ўнук.

Я апускаю вочы. Пра яе тут ні слова. А калі «тата і мама камуністы, сястра камсамолка, брат піянер» (стар. 42), тады, вядома, кім быць меншаму. Тут не да шматпартыйнасці альбо дэмакратыі.

«Ленін усміхаецца твайму шчасліваму дзяцінству. Праводзіць цябе ў школу, сустракае цябе...» (стар. 106).

— Дзядуля, а чаму далей шмат кропак? — зварочваецца да мяне ўнук.

Што адказаць? Падумаў: мабыць, аўтары мелі на ўвазе такі працяг: «сустракае цябе... з дазіметрам, каб паглядзець, колькі ты сёння спажыў стронцыю ды цэзію».

На старонцы 116 змешчаны разам два партрэты. А ўнізе: «Янка Купала і Якуб Колас — выдатныя народныя паэты».

— Дзядуля, а чые гэта паэты? — супыняе мае думкі ўнук.

— Гэта паэты сінявокай Беларусі. Але кожнаму паэту не адвялі старонкі ў буквары, бо не хапіла паперы,— адказаў я.

Ці да сінявокай тут Беларусі, калі «крамлёўскія зоры над намі гараць...»

**Леанід СТАЛЬМАКОЎ,**
**інжынер, ветэран працы.**
г. Мінск.

# ШЫШЧЫЧЫ ЦІ ШЫШЧЫЦЫ?

З нашай мовай часам сапраўды робіцца нешта незразумелае. Без ніякіх падстаў на тое, адвольна мяняецца напісанне знаёмых слоў. Асабліва гэта кідаецца ў вочы, калі справа тычыцца геаграфічных назваў. Напрыклад, раней гаварылі і пісалі: Блеўчычы, Кабыльчычы, Шышчычы. Цяпер гавораць, зразумела, па-ранейшаму, а вось пішуць ужо: Блеўчыцы, Кабыльчыцы, Шышчыцы.

Як на маё разуменне, пісаць трэба якраз так, як гаворыць народ. Гэтаму ёсць і вытлумачэнне. Хутчэй за ўсё адбывалася такая паралель. Жыў, напрыклад, чалавек, якога звалі Цімка, адсюль і пайшло мястэчка Цімкавічы. Такім чынам утварыліся і Баранавічы, вёска Рачкавічы.

Давялося мне ўзнімаць гэтае пытанне ў размове з доктарам філалагічных навук А. Наркевічам, той толькі развёў рукамі — ні станоўчага, ні адмоўнага адказу. Доктар жа А. Жураўскі выказаў меркаванне, што, магчыма, назіраецца запазычанне з польскай мовы. Напрыклад, па аналагу Катовіцы ці Катавіцэ. Праўда, калі я запярэчыў наконт падобнага вытлумачэння пераходу «чы» ў «цы», А. Жураўскі згадзіўся, што змены сапраўды штучныя і тут жа ўдакладніў, што ўсё ж многія назвы нельга перайначыць, як, напрыклад, Жыровічы ў Жыровіцы.

Але якое ж было маё здзіўленне, калі ў Слоніме ў раскладзе руху аўтобусаў я ўбачыў: «Жыровіцы I» і «Жыровіцы II»?! Значыць, «вірус» і ў дадзеным выпадку спрацаваў.

І яшчэ. Дзеля чаго слова мястэчка, такое мілагучнае і прыгожае, падмянілі на слова ПГТ, або пасёлак гарадскога тыпу?

**Уладзімір АЛЯШКЕВІЧ.**
Мястэчка Капыль.

# Адгукніцеся, сведкі...

«...Нас паставілі радамі па чатыры і крыкнулі:

— Хутчэй кладзіся!

Мы леглі ніцма...

...Чэкістам, якія стаялі на правым баку шашы, камандзір загадаў перайсці на левы. Такім чынам, з правага боку нас ніхто не ахоўваў, яны ўсе размясціліся на левым баку. Цяпер нам стала зусім зразумела, што з намі збіраюцца рабіць...

...Разважаю, як яны нас будуць расстрэльваць. Ляжачых на сярэдзіне шашы не будуць страляць, загадаюць устаць. Якая каманда ні была б, усё роўна не ўстану... паспець бы толькі скаціцца ў канаву справа...

...Нарэшце, пачулі!

— Бяжыце, страляем!

Адначасова з камандай за тры крокі ад нас затрашчалі кулямёты і вінтоўкі, у нас пасыпаўся град куль. Хто спрабаваў устаць і бегчы, быў скошаны на месцы. Большасць з нас спрабавалі выканаць каманду, але не здолелі: паваліліся калі не на шашу, то побач...»

Гэта з кнігі ўспамінаў Ёнаса Пятруйціса, якая называецца «Як яны нас расстрэльвалі». Прыведзеныя словы апісваюць ракавую ноч з 26 на 27 чэрвеня 1941 года на Бабруйскай шашы, за 2—3 кіламетры ад Чэрвеня, дзе была расстраляна канвоем НКУС калона з некалькіх сот чалавек.

У першыя дні вайны палітычных зняволеных эвакуіравалі з разбітай нямецкай бамбёжкай Мінскай турмы. Сярод іх былі літоўцы, рускія, палякі, яўрэі, але, натуральна, большасць складалі беларусы. Пры расстрэле калоны каля Чэрвеня амаль два дзесяткі літоўцаў ураталіся. Трое з іх напісалі ўспаміны, якія цяпер апублікаваны.

Усяго па дарозе ад Мінска да Чэрвеня на працягу паўтара сутак было расстраляна 600—700 чалавек: цяжарныя жанчыны, жанчыны з маленькімі дзецьмі, старыя і проста саслабелыя людзі. Пасля прыходу калоны ў Чэрвеньскую турму была праведзена сарціроўка зняволеных: адных, у асноўным крымінальнікаў, запісвалі добраахвотнікамі ў Чырвоную Армію, другіх пакінулі ў турме, астатніх вырашылі ліквідаваць. 26 чэрвеня, уначы, дзве калоны па некалькі сот чалавек кожная, пагналі з Чэрвеня па Бабруйскай шашы. Далей адбылося тое, пра што напісаў Пятруйціс. Некаторым удалося збегчы ў лес, альбо ўпасці ў прыдарожную канаву і прыкінуцца забітым. У апублікаваных успамінах ёсць звесткі, што сярод тых, хто ўратаваўся, былі таксама беларусы, палякі. Прыгадваюцца сёлы Запальчыкі (ці Пальчыні, Пальчыкі?), Іванаўка, калгас імя Молатава. З глыбокай удзячнасцю ўспамінаю простых людзей, калгаснікаў з гэтых вёсак, якія дзяліліся з уцекачамі небагатым харчам, раілі, дзе лепш схавацца на ноч. Такім чынам, уцекачы, хаваючыся ў лясах і балотах, правялі тыдзень да прыходу нямецкіх войск.

Сёлета спаўняецца 50 гадоў з часу гэтага злачынства чэкістаў. Наш абавязак перад расстралянымі і перад будучымі пакаленнямі помніць іх.

Можа, у наваколлі Чэрвеня ёсць людзі, якія помняць тыя страшныя падзеі першых дзён вайны? Можа, хто ведае, дзе пахаваны расстраляныя вязні?

Відаць, сярод канвою НКУС большасць складалі маладыя хлопцы. Магчыма, хтосьці з іх жывы і дагэтуль у сваёй душы ўтойвае страшныя сведчанні? Магчыма, у кагосьці з іх на старасці гадоў загаворыць сумленне і яны дапоўняць урывачныя сведчанні ўцекачоў больш падрабязнымі і поўнымі звесткамі?

У сумлення заўсёды ёсць шанц. Іначай не было б сэнсу ўспамінаць бязвінна пралітую кроў. Без сумлення няма будучыні, няма жыцця.

**А. СТАСІШКІС,**
**намеснік старшыні Саюза былых палітзняволеных Літвы.**

# «Беларускі каляндар 1991»



БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР 1991

Гэты каляндар выдадзены Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы на 1991 г. Ёсць тут раздзелы «Каляндарнае», «Свойскае», «Размоўнае», «Палітычнае» і інш. Надзвычай фактурна і востра пададзена гісторыя Чарнобыля (артыкулы А. Галькевіча і Л. Тарасенкі).

Сярод матэрыялаў заслугоўвае ўвагі «Размова з Сакратам Яновічам», у якой вядомы беларускі пісьменнік Беласточчыны разважае аб ролі роднага слова ў жыцці творцы. «Слова роднае і слова вывучанае — гэта не адно і тое ж. Слова роднае прыйшло разам з табою на свет, слова вывучанае — набытае, бы нейкая мэбля... У мастацкім сэнсе значна больш можаш дасягнуць, карыстаючыся родным словам, ...пры дапамозе слова, з якім прыйшоў на свет... Па-за беларускай мовай я быў бы вартым жалю чаляднікам»,— спавядаецца пісьменнік.

У «Календары» таксама змешчана хроніка беларускага культурнага руху ў Польшчы ў 1989—1990 гг., артыкулы пра беларускі музей у Гайнаўцы, царкоўныя брацтвы на Беларусі, развіццё беларускай эміграцыйнай прэсы і выдавецтваў, іншыя матэрыялы.

**Ю. З.**

**Перабудова, што пачалася шэсць гадоў таму, была ўспрынята большасцю народа як свята. Свята свабоды, свята галоснасці, свята дэмакратыі. Скончылася жахлівая ноч сталінізму, развеяўся прыцемак застою. Як заўсёды, народ аказаўся вышэй сваіх правадыроў, мудрэй сваіх настаўнікаў. Людзі пачалі жыць радасным чаканнем: яшчэ трошкі — і пачнецца жыццё, якое адпавядае прызначэнню свабоднага чалавека...**

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# ЖЫВЫЯ КАРАНІ ДУХУ

Адной з самых выразных прыкмет перабудовы стала галоснасць. Яна выявіла ўсе заганы нашага грамадства, дапамагла нам зразумець сапраўдную вартасць агульначалавечых каштоўнасцей. Гэтыя каштоўнасці здабываліся тысячагоддзямі цяжкае працы, пакут і бязмежнае надзеі. У гэтых каштоўнасцях назапашаны вопыт чалавецтва, вопыт гуманізму. Гэта тое, што чалавека робіць чалавекам, што звязвае чалавека з чалавецтвам і Сусветам, што вядзе яго па дарозе людскасці і абараняе ад здзічэнства. Гэта яны надаюць нам годнасці і адметнасці і адначасова не дазваляюць узнесціся над іншымі. Мы пачалі разумець, што ніякі класавы інтарэс, ніякія партыйныя мэты не змогуць замяніць гэтыя агульначалавечыя і таму простыя гістарычныя набыткі: любі зямлю, што ўзгадавала цябе, шануй старасць, беражы дзяцінства, пакажы каханай блакітнае неба, высушы слёзы дзіцяці, узрадуйся поспеху суседа, усміхніся таму, хто ідзе насустрач. Як гэта проста! І як цяжка дасягнуць гэтае прастаты!

Дзякуючы галоснасці мы ўбачылі, як былі згвалтаваны ідэі дабра і справядлівасці, сумлення і гонару, якія не адпавядалі афіцыйным сацыяльна-палітычным катэгорыям. Вузка класавыя мэты, якія да таго ж атаясамліваліся з мэтамі партыйнымі, абвяшчаліся галоўнымі, ім надавалася вяршэнства. Дзеля дасягнення гэтых мэтаў можна было ахвяраваць што там асобай — цэлымі народамі, здымаючы з сябе адказнасць спасылкаю на вышэйшую гуманнасць. Пад воклічы аб гуманізме і справядлівасці ішла дэвальвацыя чалавечага жыцця. Каштоўнасць асобы набыла адмоўнае значэнне. І ўсё гэта ў маштабах жахлівых. Але самае страшнае, што ва ўсіх гэтых злачынствах удзельнічалі і мы з вамі. Так, так, і мы. Рабства ў краіне існавала не толькі як сацыяльны інстытут, а і як стан нашае душы. Рабская пакорлівасць, рабскае нахабства, рабская зайздрасць—гэта ж усё мы. Лютасць бацькоў, грубасць дзяцей, нежаданне бачыць людзей у тых, хто адрозніваецца ад рабскага ўзору. Абыякавасць да суседа, адсутнасць павагі да акружаючых, маральнае здзічэнства—і гэта мы. Пагарда да інтэлігенцыі, зневажанне культуры—таксама мы. Цяжка да нас прыйшло разуменне, што ашукаць можна толькі таго, хто хоча быць ашуканы. Быць ашуканым зручна. Быць ашуканым надзейна. Нарэшце, быць ашуканым—лёгка. Трэба толькі пераканаць сябе ў тым, што забіваюць менавіта ворагаў, што нішчаць людзей дзеля дасягнення агульнага шчасця. І адразу палітычны ..ндытызм становіцца барацьбой за народнае шчасце, а ідэалагічны цынізм—рэвалюцыйнай прастатой. І пераканалі. Пераканалі так, што нават цяпер, калі вядомы нечалавечыя памеры гэтых жахаў, нават цяпер не можам (ці не хочам? А можа, баімся?) вызваліцца ад гэтай ідэалагічнай навалы.

Як жа здарылася ўсё гэта, як стала магчыма?

Да гэтага часу ўся наша сістэма была арганізавана такім чынам, што яна існавала не для чалавека, а для самой сябе. Ідэя самакаштоўнасці асобы, якая з'яўляецца падмуркам філасофіі і гуманізму, была фальсіфікавана афіцыйнай ідэалогіяй і заменена «канкрэтным гуманізмам сацыялістычнай практыкі» менавіта дзеля таго, каб надаць «тэарэтычнае абгрунтаванне» палітыцы звядзення жывых асоб да ўзроўню «шрубы» адзінае дзяржаўнае машыны, каб неяк апраўдаць ссылкі, гвалт, забойства мільёнаў людзей. Спачатку па-за межы «канкрэтна-практычнага гуманізму» былі выведзены прадстаўнікі пануючага класа. Мільёны суайчыннікаў былі абвешчаны ворагамі толькі за тое, што яны належалі да іншай сацыяльнай групы. За імі пайшлі ваенспецы, сабатажнікі, святары, кулакі. Расло і пашыралася кола «класавых ворагаў», звужалася, як шагрэневая скура, паняцце дабра і звычайнае чалавечае спагады, набіраў сілу гвалт. Меншавікі, трацкісты, падкулачнікі, шпіёны, правы ўхіл, левы перакос—і ў выніку ворагам народа становіцца сам народ. Гэта і ёсць логіка гвалту: чым больш з яго дапамогай абмяжоўваюць «чужых», тым меней становіцца нашых.

Адбывалася непадлеглая розуму дэвальвацыя чалавечага жыцця: ідэя і нават куля становяцца даражэйшымі за чалавека. Сваяцтва, сяброўства, суседства губляюць свой першапачатковы сэнс. Свой—хто з намі, і ўжо бацька паўстае супраць сына, ужо сын здраджвае бацьку і адмаўляецца ад бацькоўскага імя. Сябра—хто думае, як ты, і ўжо ўзгадаваныя на адным дворышчы цэляцца адзін у аднаго са стрэльбы. Хто не з намі, той супраць нас, той вораг, а ворагу адзін прысуд—смерць. Чалавек ператвараецца ў вязня, які чакае выканання прысуду. Страх цяпер яго дарадца, а паслухмянасць—мандат на існаванне. Але ж як здарылася, што самавіты народ стаў спалохапалоханым статкам? Чаму чалавек адмовіўся ад гонару і сумлення і стаў выканаўцам чужое волі?

Вытокі нашых пакут—у гвалце, што быў узведзены на ступень дзяржаўнае палітыкі. Галоўны гвалт—над уласнасцю, над тым, без чаго немагчыма ўявіць сабе свабоду чалавека, яго незалежнасць, нарэшце, росквіт эканомікі.

У той жа час развіццё грамадскай уласнасці, на якую нас прымушалі маліцца, паказала сваю поўную бесперспектыўнасць. І ў той жа час «грамадская ўласнасць» мела гаспадароў, чые інтарэсы спаўна забяспечвала. Гаспадары гэтыя—партыйныя і дзяржаўныя стуктуры, якія валодалі неабмежаваным правам распараджацца ўсёй сумай валавога прадукта краіны. Юрыдычна ўсё гэта належала, быццам бы, грамадству, гэта значыць нам з вамі, а фактычна—класу кіраўнікоў-размеркавальнікаў. А разам з гэтымі здабыткамі ў тыя рукі траплялі ўсе мы. Гэта і ёсць першая «свяшчэнная таямніца» таталітарнага рэжыму.

Нам толькі здавалася, што адміністрацыйна-камандная сістэма кіруе намі, на самай справе яна намі валодала. На працы яна магла нам даць заробак большы, а магла і меншы. Магла і зусім не даць. Магла кватэру даць, а магла і не.

Распарадчыкі-размеркавальнікі авалодалі нашай дзейнасцю, нашым жыццём, нацкоўвалі адзін на аднаго, каб затым абвясціць сябе цэментуючай сілай, без якой існаванне нашага грамадства быццам і немагчыма. Так стварaўся міф аб незамяняльнасці гэтае сілы.

Другая «свяшчэнная таямніца» таталітарнае сістэмы: пастаянны кантроль над тым, хто колькі павінен мець, павінен з'есці. Ажыццяўленне гэтага кантролю становіцца магчымым у працэсе таталітарнага планавання, якое грунтуецца на «строгім уліку і кантролі за мерай працы і мерай спажывання». Пры гэтым «мера працы» заўсёды аказвалася без меры, а «мера спажывання» — мерай жабрацтва.

Тое, што атрымала назву камандна-адміністрацыйнае сістэмы, з'явілася практычным вынікам «планава-інжынернага» погляду на грамадства, а дакладней—спробы рэалізаваць гэты погляд у сацыяльным жыцці. Сутнасць гэтага погляду ў тым, што ён лічыць чалавецтва здольным свядома, у адпаведнасці з папярэдне складзеным планам, кантраляваць і накіроўваць сваю эвалюцыю.

Галоўным і непазбежным вынікам гэтага «планава-інжынернага» погляду ў яго практычным увасабленні было абмежаванне асабістай свабоды, нівеліроўка індывідуальнасцей, аб'яднаных у такое аморфнае паняцце, як «савецкі народ». Палітыка татальнага планавання ператварала грамадства ў сістэму прымусовага функцыянавання па правілах, якія навязваліся грамадству звонку, а не былі вынікам спантанна-арганічнай эвалюцыі. Дзейнасць асобы дапускаецца толькі ў межах афіцыйнай палітыкі дзяржавы. Жыццё асобы абмяжоўваецца дзяржаўнымі маральнымі ды палітычнымі кодэксамі. Адным словам, па сутнасці, уяўныя аднадушша, аднадумства, аднастайнасць паводзін—жаданыя мэты таталітарнай сістэмы. Адбываецца маштабная псіхалагічная дэфармацыя: знікаюць галоўныя каштоўнасці асобы—самастойнасць, незалежнасць, здольнасць на рызыку, на ўласныя перакананні. Усё гэта перадаецца ў выключную кампетэнцыю дзяржавы. Тое, што, як кажуць, ад Бога, заўсёды належала мне, што рабіла мяне асобай і чалавекам, адчужаецца ад мяне, мне не належыць. Гэта прыводзіць да таго, што горшыя становяцца «лепшымі», што «палітычная актыўнасць» замяняе маральную чысціню. Сістэме патрэбны не лепшыя, а верныя, адданыя. Таталітарызм выбірае не творцу, а выканаўцу. Каштоўнасць асобы падае да нуля, каштоўнасць функцыянера ўзрастае ў шмат разоў. Імкненне дзяржавы пабудаваць рай на зямлі непазбежна ператварае яе ў зямное пекла.

Чым больш настойлівымі былі намаганні дзяржавы ў гэтым напрамку, тым большы негатывізм яны выклікалі: за знешняю згодай хаваўся глыбокі нігілізм, узмацненне скепсісу, унутранае супрацьстаянне. Грамадскае жыццё здзяйсняецца людзьмі, натхнёнымі Богам альбо Люцыферам. А хіба натхненне плануецца? Планаванне як сродак вырашэння невырашальнае задачы — справа не толькі бесперспектыўная, але і небяспечная, бо ў сваіх таталітарных формах вядзе да разбурэння чалавечнасці.

У грамадстве ж, жыццё якога не згвалтавана ідэалогіяй, не мараль мае патрэбу ў санкцыі закона, а наадварот, закон шукае апраўдання ў маралі. Бо ўсё маральнае заўсёды і законнае, але не кожны закон з'яўляецца маральным. Права па-за межамі маралі ёсць самавольства адных і рабства другіх.

Успомнім у гэтай сувязі маральны кодэкс будаўніка камунізму. Маральна толькі тое, што апраўдана з пункту гледжання палітыкі і ідэалогіі. А калі так, то менавіта палітыкі і ідэолагі—асобы ці ўстановы—найлепш ведаюць, што з'яўляецца маральным, а што не, і таму ўстанаўліваюць правілы паводзін для ўсіх. Гэтым асабістая адказнасць за ўласныя ўчынкі як бы перадаецца ад чалавека ідэалагічным структурам, якія і правяць ад нашага імя. У выніку мы страцілі маральную самастойнасць і чалавечую годнасць. Асоба і жыццё набылі статус палітыкі і ідэалогіі. Але ж чалавек нараджаецца не для будаўніцтва капіталізму ці камунізму, не для ахвяры ў імя «светлага будучага». Ён з'яўляецца на гэты свет дзеля таго, каб здзейсніць тое, што дала яму маці, ці прырода, ці Бог. І галоўная мэта дзяржавы—стварэнне такіх умоў, у якіх кожны чалавек мае роўныя магчымасці для самарэалізацыі, самаздзяйснення.

А гэта магчыма зрабіць толькі ў адным выпадку: калі мараль у грамадстве ўзведзена ў стан агульначалавечае з'явы не ў выпадковых і другасных яе асаблівасцях, а па першапачатковай сутнасці сваёй. Мараль—падмурак культуры і той цэмент, які звязвае асобныя маральныя «цагліны» ў адзіны, непарушны і светлы храм чалавечнасці.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

Мараль—не адзін з элементаў культуры, а яе корань. Менавіта з гэтага кораня вырастае і культура, і грамадскасць, і дзяржаўнасць. І менавіта таму яна не можа быць зведзена да палітыкі ці эканомікі, а тым больш—выведзенай з іх.

Нас адарвалі ад нашых каранёў. У нашых жылах цячэ не кроў, а страх нашых бацькоў і бязмежная туга нашых матуль. У абрабаваных войнамі і знясіленых цяжкаю працай бацькоў хапіла сілы толькі на тое, каб пасеяць нас. Мы прараслі на параненым полі жыцця, але даглядаць нас не было каму. Старэйшае пакаленне не мела сілы, каб быць нам падтрымкай, даць нам мэту, дзеля якой варта было б жыць. Згубіўшы ідэал, без вопыту і падтрымкі, мы разгубіліся і завялі. Нічога, акрамя разгубленасці, мы з сабою не неслі, таму нічога, акрамя абыякавасці, не маглі і нарадзіць. Ці магло нечага чакаць ад нас маладое пакаленне?

Калі мы хочам ажыць, калі жадаем расцвісці на палетках агульначалавечае культуры, мы павінны вярнуцца да сваіх вытокаў, на тую ніву, на якой засыхаюць, але яшчэ жывыя карані нашага духу.

Але гэта ўжо тэма другое размовы.

**Р. ГРУДНІЦКІ,**
**кандыдат філасофскіх навук, дацэнт кафедры філасофіі політэхнічнага інстытута.**
г. Наваполацк.

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

# АДВЕЯЦЬ ЗЕРНЕ АД МЯКІНЫ

## Роздум пра раннюю творчасць Петруся БРОЎКІ

Нават самыя вялікія паўнаводныя рэкі пачынаюцца з някідкіх, прыхаваных зараснікамі ручаін. Вось чаму нам цікава чытаць раннія творы таго ці іншага класіка. З іх відаць, як ён пачынаўся, як набіраў моцы талент і расло майстэрства. Перадусім у творцаў агульнапрызнаных і раннія рэчы звычайна не пазбаўлены прыкмет самабытнасці, адметнасці. Прыгадайма маладога Купалу:

Праўду з няпраўдай,
Цноту з гарэзіяй
Вымешай спрытам,—
Будзе паэзія.

Або — юны Багдановіч:

Я хлеба ў багатых прасіў
і маліў,—
Яны ж мне камені давалі...

Пра ўсё гэта думалася, калі я гартала ладныя тамы чарговага Збору твораў народнага паэта Беларусі, Героя Сацыялістычнай Працы Петруся Усцінавіча Броўкі.

Як і многія з савецкіх класікаў, Пятрусь Броўка быўканізаваны, так бы мовіць, пры жыцці: адзначаны ўсемагчымымі званнямі, прэміямі, узнагародамі, прызнаны на дзяржаўным узроўні, вядомы далёка за межамі Беларусі. Пётр Усцінавіч з юнацтва быў чалавекам надзвычай адчувальным да павеваў часу і патрабаванняў моманту. У павышанай чуйнасці, у здольнасці лёгка паддавацца ўплыву і захапляцца новымі ідэямі былі свае плюсы і свае мінусы. Плюсы дапамагалі трывала ўкараняцца ў жыццёвую глебу і рухацца ўгору па грамадскіх приступках. Мінусы ж рабілі чалавека марыянеткай у руках афіцыйных структур, нівеліравалі, дэфармавалі яго як асобу. У выпадку з Броўкам гаворка пойдзе не пра маральныя і духоўныя дэфармацыі (хаця і яны былі), а пра ненатуральна доўгае, пакутлівае станаўленне паэтычнага «я».

Няма ніякага сумнення: адчуванне «вялізнага шчасця новага жыцця» (з аўтабіяграфіі) было ў паэта шчырым, непадробным. Так мог сказаць кожны, хто з небывалым імпэтам і юнацкім максімалізмам уключыўся ў «сацыялістычнае будаўніцтва». Ні выдаткаў, ні перакосаў, ні драматычных страт — вынікаў кастрычніцкага перавароту — тады не бачылі, Савецкая ўлада, як тая жонка Цэзара, падазрэнняў не выклікала. Бадай, не было такой палітычнай кампаніі, такога накірунку, такога лозунга, якога б гучна не падхопліваў энергічны юнак з вёскі Пуцілкавічы. Прыроджаны аптымізм яго ўдала супаў з парадна-прыўзнятай атмасферай таго часу: «Не буду я стаяць на раздарожжы, Вачамі сумнымі глядзець у далячынь». Радкі, што справядліва лічыліся паэтычным крэда, сёння ўспрымаюцца неадназначна. Казачны герой, спыніўшыся на развілцы, і то болей разважаў. Вядомая справа: налева пойдзеш... направа пойдзеш...

Пятрусь Броўка пайшоў з усімі, але і трошкі наперадзе. Адсюль і недвухсэнсоўныя пагрозы з вышыні становішча: «Хто на дарозе стаў? Дык ведай — сцеражыся!..»

Заўважым, што ў тагачаснай паэзіі займеннік «мы» сустракаецца намнога часцей, чым «я». На пярэднім плане — маса, множнасць, грамада, а пасля ўжо асоба з яе непаўторным светам. Ад упэўненага «мы» да ўяўлення, што чалавек у адзіночным ліку не мае кошту,— паўкрока.

Што слёзы аднаго, што роспач
і надломы
У буры песень, веры і надзей?
Мы выйшлі ўсе паміж
раскатаў грому
І кожны дзень святло гарыць
ярчэй.

(У першапачатковым варыянце радок гучаў больш канкрэтна: «Мы выйшлі ўсе з вінтоўкаю і ломам».)

Але ж бачыў-такі аўтар, што не на адной суцэльнай радасці замешаны чорны бохан жыцця! Тым не менш, эпітэт «вясёлы» з самых ужывальных у яго лёксіконе. Вясёлыя — гімн, жыццё, вяселле, дзяўчаты, песня, вясна, зара, прыгажосць, смех...

З рэдкім пастаянствам, з нейкай хваравітай экзальтаванасцю паэт не перастае славіць Кастрычнік — «Савецкую вясну». «Тады, у 20—30 гг.,— заўважаў ва ўспамінах пра свайго знакамітага земляка Васіль Быкаў,— патрабавалася менавіта такая паэзія-агітацыя з высокай патэтыкай, і так пісалі амаль усе». Выдзеленае мной слова ўжыта выдатным нашым пісьменнікам, вядома ж, невыпадкова — з поўным разуменнем прыроды пануючага стылю. «Замест сумленнай аб'явы і пакаяння: так, спроба штурму нябёсаў не ўдалася (...), уперліся і больш таго, сталі самым нахабным чынам і, відаць, надоўга ўстанаўліваць дэкарацыі грандыёзнага ідэалагічнага блефа, царства патэтычных, наскрозь ілжывых славес, прызваных гіпнатычна ўнушыць, што чорнае ёсць белае» (С. Сямёнава, «ЛГ» за 1.05. 1991).

П. Броўка, як і большасць яго сучаснікаў, стаў і аб'ектам гэтага блефа, і адначасна — як баец ідэйнага фронту — яго стваральнікам і ахоўнікам. Пазней, у росквіт сталіншчыны, ужо ўсе паэты (без «амаль») — і хто цудам пазбег гулагаўскага пекла, і хто прайшоў яго кругі — былі задзейнічаны ў бяспрыкладным спектаклі. Ды тут маюць значэнне матывы: адны такім вось традыцыйным шляхам ратавалі волю і само жыццё, другія ж па сваёй натуры схільныя былі да ўкленчвання і слугавання «гаспадару». Пётр Усцінавіч, здаецца, адносіўся да апошніх: у хоры беларускіх акынаў ён лічыўся прызнаным салістам.

Улада поўнай мерай аддзячыла яму за верную службу, аднак былі і прыкметныя выдаткі ў такой своеасаблівай (неўсвядомленай!) самаахвярнасці: на адным тэматычным полі надта не разгуляешся, фантазіі ходу не дасі, пяро не навострыш. Якая ўжо тут «цнота з гарэзіяй», калі элементарнай праўды бракавала!

Невыпадкова ў дачыненні да 30-х гадоў даследчыкі гавораць пра творчы крызіс Броўкі. Ёсць над чым задумацца. У 26-ым напісаў першы верш, а ў 30-ых — крызіс. Па ўсёй бачнасці, справа менавіта ў зацыкленасці на адной тэме, у немагчымасці выявіць багаты свет чалавечых пачуццяў. Возьмем, напрыклад, паэму (дакладней — цыкл вершаў) «Цэхавыя будні», прысвечаную ўдарнікам Добрушскай папяровай фабрыкі.

Словам камуны кліча уперад —
папера.
Б'ем мы ударна бастыліі
і цэмры — паперай.
Думкі далёка шугаюць
наперад — з паперай.
Лепшы ударнік, чуеш і цяпер
нам — папера.
Дамо пяцігодцы колькі ёй
трэба — паперы.

Пагадзіцеся, такое ўражанне, што паэту абрыдла ўласная тарабаршчына, і ён прамаўляе яе нехаця, скорагаворкай, абы адбыць. А яшчэ падаецца, што твор гэты попрасту не адрэдагаваны.

Што паэт і сам працаваў ударна, сведчыць наступны факт. 15 верасня 1930 г. «Звязда» паведаміла пра паездку брыгады пісьменнікаў на фабрыкі і заводы рэспублікі, а ў лістападзе з'явілася ў свет памянёная паэма. Цікавая яна тым, што напісана цалкам «пад Маякоўскага». Відавочнае наследаванне бачым і ў іншых творах таго ж перыяду. Прычым у многіх выпадках перайманне ідзе не толькі па лініі формы, але і ў змесце, і нават у характары лірычнага героя:

І ў гэтыя дні,
калі
творчымі жыламі
звязаны
нашы
ўдарныя звенні,
вораг
з усмешкаю
кракадзілавай
сціскае штылет
у глыбокай кішэні.

А вось як у духу «Вокнаў РОСТА» даецца бой прагульшчыкам:

Яму напляваць
на вытворчыя планы,
Кінуў варштат,
як на фронце вінтоўку,
І ходзіць вясёлы,
як сцелька, п'яны.
Ноч прамільгнула
ўся паўлітроўкай.

Трэба заўважыць, што ў многім беларуская тагачасная паэзія перагукваецца з рускай. Агульнымі, у прыватнасці, былі «планетарныя» матывы.

Па індыйскіх дарогах
Гараць яны,
Па маньчжурскіх палях
Палаюць яны,
Бліз вялікага Ніла
Іскрацца яны —
Буйнай сілай змагання агні.

Параўнайце, у П. Когана:

Но мы еще дойдем до Ганга,
Но мы еще умрем в боях,
Чтоб от Японии до Англии
Сияла Родина моя.

Шмат перагукванняў і падабенства ў вершах Петруся Броўкі і Яраслава Смелякова (дарэчы, напалову беларуса па паходжанні). У аднаго «бетонныя ногі» эпохі, «стальная дарога», «раскат сталёвы», у другога — «железный век», «железный труд», «железная колыбель»... Запазычанне ішло не на ўзроўні паэтыкі, а на ўзроўні ідэалогіі. У зладжанага духавога аркестра быў пытны дырыжор.

Прымушаю сябе чытаць далей. «Маршы гудкоў», «рубільнік індустрыі», «агонь перамог», «камун маяк», «кастрычніцкі марш», «маладая рэспубліка», «магутныя штормы», «вясна камунізму», «вясна-камуністка», «чырвоны маяк», «веліч камуны»... «І гэта паэзія!! — усклікне сучасны малады чалавек, у якога ёсць нейкія паняцці пра літаратуру як від мастацтва.—Гэта ж суцэльная апалагетыка!» Што ж, уяўленні пра сутнасць і задачы паэзіі заўжды былі досыць рухомымі—як і сама «генеральная лінія», што вымушала творцаў пад сябе падстройвацца. А

Карлас ШЭРМАН

# Краіна падрадкоўнікаў

## Мастацкі пераклад і нацыянальная свядомасць

Тэма гаворкі, на першы погляд, змяшчае ў сабе аксіёму. Прыгадайма, беларускі першадрукар Францыск Скарына быў і першаперакладчыкам беларускім; вялікі армянін Масроп Маштоц, аўтар старажытнаармянскага алфавіту, прылічаны да святых, таксама быў першаперакладчыкам, і дзень яго нараджэння святкуецца ў Арменіі як Дзень перакладчыка. Сувязь між мастацкім перакладам і нацыянальнай свядомасцю бясспрэчная.

Аднак, калі народ у сілу звышскладанейшых гісторыка-палітычных прычын перажывае чорную эпоху нацыянальнага заняпаду, калі народ даведзены да такога стану, што сам адмаўляецца ад роднае мовы, ад уласнае культуры, калі прымаюцца ахоўныя законы ў адносінах да мовы і культуры, якія ў асноўным не выконваюцца, калі глухое супраціўленне ды інерцыя зводзяць на нуль адчайныя намаганні інтэлігенцыі, тады карысна паглыбіць разуменне таго, што ўвогуле здаецца бясспрэчным.

Гасподзь Бог прагнаў грэшных продкаў чалавецтва з раю, і з тае пары, відаць, існуе думка: усё спазнаецца ў параўнанні. Чалавеку ўласціва спазнаваць сябе і свет, у якім жыве, менавіта такім чынам. Гэта псіхалагічны стрыжань, вакол якога грунтуюцца адносіны шмат у якіх сферах.

Перакладзены з іншай мовы твор — перадусім носьбіт іншага жыцця, іншага спосабу мыслення, іншых параметраў разумення свету. Чым вышэй мастацкая вартасць перакладу, тым больш прыцягальная магчымасць міжвольнага параўнання, якое непасрэдна ўплывае на нацыянальную свядомасць.

Тут варта сказаць, што ў дадзеным выпадку нацыянальная свядомасць выступае як шматаблічная катэгорыя, якая ахоплівае ўсе бакі жыцця, любыя адносіны чалавека з прыроднымі з'явамі і рэчамі, як і чалавека з чалавекам, з грамадой чалавечай. Падкрэсліваю гэта таму, што апошнім часам, у сувязі з абвастрэннем палітычнага жыцця, разуменне нацыянальнай свядомасці значна звузілася і тычыцца ў асноўным палітычнага суверэнітэту, сферы ўжывання беларускай мовы, меры распаўсюджвання нацыянальнай культуры, пытанняў роднай гісторыі і — перш за ўсё — фальсіфікацыі гісторыі.

На самай справе нацыянальная свядомасць і нацыянальны характар асэнсоўваюцца сінхронна, адносіны да прыроды ўвогуле і да розных яе праяў, да спраў зямных, у прыватнасці, да сям'і і так званай сексуальнай свабоды, да рэлігіі вальнадумства, да маралі і антымаралі XX стагоддзя, да мастацтва і да сурагатаў мастацтва — таксама вызначаюць нацыянальную свядомасць.

Параўнанне з замежным, іншым праз мастацкі пераклад— незаменны фактар эвалюцыі і самаўдасканалення: пісьменнік адкрывае новыя струны ўласнае душы, новыя стылёвыя магчымасці, новыя дзялянкі мовы, чытач знаходзіць апірышча думкам і пачуццям або іхняе абвяржэнне.

Але працэс узаемаўздзеяння мастацкага перакладу і нацыянальнай свядомасці далёка няпросты, на ягоным шляху ўзнікаюць бясконцыя перашкоды, спрадвечныя і ўсё новыя праблемы.

Напрыклад, вядома, што ў пары моў — арыгінала і перакладу — адна з іх заўжды аказваецца дамінантай. Часцей за ўсё дамінантай будзе мова той краіны, дзе ажыццяўляецца пераклад, хоць не апошнюю ролю сыграе тут асоба перакладчыка ды яшчэ тое, якая з дзвюх моў яму даводзіцца роднай. Дамінанта пацягне шалі на сябе, але мастацкі пераклад — усё ж няўстойлівая раўнавага, аднабаковы ўхіл можа загубіць філасофскую функцыю параўнання, і тады не адбудзецца той пачуццёвы зрух, які працуе на развіццё чытачовай свядомасці, на пазнанне чытачом — ў не меншай ступені і перакладчыкам—самога сябе.

Так, мы пераствараем арыгінал на іншай моўнай глебе, ,і твор у перакладзе павінен быць не менш мастацкім, чым арыгінал, але яго нельга прыгладжваць на свой капыл, нельга страчваць адрознасць.

Другая перашкода бачыцца ў несупадзенні псіхалагічных партрэтаў слоў. Колісь я пісаў: пясок для жыхара Сахары — гэта спякота, сонца над пустэльняй, іспанец жа бачыць пясок і думае пра прахалоду на беразе ракі. Слова і ягонае разуменне звязаныя нябачнымі ніткамі, сама сувязь залежыць ад мноства фактараў, і перакладчык мусіць іх трымаць у полі зроку.

Увогуле, без вялікіх ведаў у нібыта нечаканых, непатрэбных, на першы погляд, у жыцці галінах перакладчык не дацягнецца да адценняў, да падтэкставых плыняў, праз якія арыгінальны тэкст стаў мастацкім творам. Наўрад ці хто здольны пералічыць, што трэба ведаць. я ж толькі скажу: усё так ці інакш мадэліруе свядомасць, таму ўсё значна і важка — нават пошчак бязважкай птушкі.

Патрабуе грунтоўных доследаў і ўплыў твора, які перакладаецца, на арыгінальную творчасць перакладчыка. У прац[illegible]е перакладу адбываецца які[illegible] зрух, звязаны з засваеннем і духоўным праламленнем невядомай сістэмы вобразаў, нязнаных рэалій, іншай нацыянальнай свядомасці, і тут падыходзім да разумення мастацкага перакладу як шляху, які вядзе нас да глыбокага асэнсавання агульначалавечых каштоўнасцей. Рознасць адкрывае нам еднасць. Мо гэта прагучыць парадаксальна, але нават экзоты яднаюць культуры свету, галоўнае — ведаць іх і зразумець.

Пры ўсіх магчымых доследах я б не раіў забывацца на тое, што мастацкі пераклад, разгледжаны як арыгінальная, аўтарская сістэма набыткаў і страт, як сістэма складаных філасофска-філалагічных кампенсацый у творчым працэсе перастварэння арыгінала на іншую моўную стыхію, ёсць першасны тэкст, бо арыгінальны твор не перастае быць першасным творчым актам толькі таму, што з'яўляецца перакладам думак і пачуццяў аўтара. Мастацкі пераклад — гэта вынік творчасці, у якой валоданне мовамі, энцыклапедычная эрудыцыя, філасофска-лінгвістычны талент, тонкі слых на падтэкставыя плыні, моцная нацыянальная свядомасць і спрадвечнае імкненне да высокіх агульначалавечых каштоўнасцей маюць аднолькавую інварыянтную сілу і праяўляюцца ў моманты найвышэйшай гармоніі інтэлекту з шырокім дыяпазонам пачуццёвай сферы,— якраз гэтыя моманты прынята называць

замахі былі, шчыра скажам, не слабыя:

**Мы павінны зрабіць,**
**Што вякамі было недароблена.**
**Нават песні зложыць,**
**Якіх свет не складаў.**

Можна лічыць, што мара паэта збылася: такіх песень, якіх спарадзіла літаратура сацрэалізму, сапраўды не складаў свет. Паэзію ў іх разгледзець можна толькі ў вялікую акадэмічную лупу. Адно здзіўляе — як з-пад гэтага слоўнага шалупіння ўсё ж прабіваюцца парасткі лірызму. К сталаму ўзросту яны нарэшце развінуцца і пераможуць пустазелле рыторыкі.

Пра непасрэдную і поўную залежнасць Петруся Броўкі ад пануючай ідэалогіі сведчыць і наступнае. У адрозненне ад даваеннай, яго паэзія перыяду Вялікай Айчыннай вайны амаль пазбаўлена пафаснага надрыву, у ёй пераважаюць натуральныя, чалавечныя інтанацыі. Але вось адгрымелі майскія салюты, пераможцы вярнуліся на родныя папялішчы — і тон Броўкавай паэзіі адразу мяняецца: мілагучную скрыпку зноў заглушае барабанны бой. Відаць, дасягненне мэты ў знешняй палітыцы дазволіла прапагандысцкай службе пераключыцца на турботы, так сказаць, унутраныя. Што і дало пра сябе знаць.

У пасляваенныя гады, знаходзячыся на адказных літаратурных пасадах, паэт таксама знаходзіць, што праслаўляць: чырвоны сцяг, людзей працы, Маскву — «сэрца любай Айчыны», рэспублікі, дзе давялося бываць, дружбу народаў і многае іншае. Прысутнічае ў яго творчасці і тэма халоднай вайны. Папу Рымскага, напрыклад, ён прадстаўляе такім крыважэрным, што аж мурашкі па скуры:

**Скажы, прадаўся ты з крыжом**
**За плату, за якую?**
**З вады не робіш ты віна,**
**Піць хочаш кроў людскую.**

У вершах 50-ых гг. «Здраднік» і «Чорны круг», дэманструючы непрымірыма-класавую мараль, паэт пераходзіць на банальную лаянку. Абстрактным «чорным сілам» і «ненавіснікам жывога» ён з не меншай нянавісцю прадракае:

**Можа быць на тоўстай шыі**
**Чорны круг,**
**Чорны круг!**

Каюся, паэм з двух першых тамоў Збору твораў адолець так і не змагла. З прачытаных жа вершаў зразумела пэўна: ідэалагічная машына падмяла мяккага, як воск, чалавека, цалкам, яго станаўленне як паэта было няпростым і зацяжным. **Паэтам** па сутнасці ён стаў пасля пяцідзесяці — ужо адзначаны дзвюма Дзяржаўнымі прэміямі СССР. Так што «ранні перыяд» ахоплівае гадоў 25.

Здаецца, Пётр Усцінавіч быў досыць блізкі да ўсведамлення гэтай асаблівасці сваёй творчасці (але не сваёй мастакоўскай трагедыі):

**Не пытайся пра гэта,**
**Бо адказу не дам.**
**Як зрабіўся паэтам,**
**Я не ведаю сам.**

Улічваючы, што аўтару пайшоў шосты дзесятак,— прызнанне каштоўнае.

Крыху пазней, у 1958 г., ён піша верш «Паэзія» — такі ж гарэзлівы, як і ў маладога Купалы, дзе сціпла канстатуе:

**А як цябе мне адшукаць —**
**Нялёгкая задача!**

І толькі ў 1971 з бясхітраснай дзіцячай самаздаволенасцю паведамляе чытачу:

**З гадамі вопыт — нагарода!**
**Вядома, стаў пісаць я лепш.**

**Лепш пісаць** паэт пачаў ужо напрыканцы пяцідзесятых. У 3 томе Збору твораў тады-сяды пракідваюцца сярод мякіны тугія зярняты сапраўднай паэтычнасці. «Як ліст дубовы», «Памылка», «Пахне чабор», «Шэрая гадзіна», паэма «Голас сэрца» — гэта вам не аскоміну набіўшыя оды:

**Мы славім**
**Сваю дарагую Радзіму,**
**Мы партыю славім і родны ЦК.**

Пачынаючы са зборнікаў «Пахне чабор» і «Высокія хвалі», мы маем магчымасць назіраць, як рассоўваецца свет паэта, напаўняецца фарбамі, гукамі, жывым непадробным пачуццём. Знойдзены вельмі цёплы, давяральны тон звароту да чытача, пад знешняй прастатой і праставатасцю тояцца глыбокія думкі і трапныя назіранні.

**Калі надыдзе час спачыну,**
**Адна ёсць просьба да зямлі:**
**Накрый мяне крылом арліным,**
**Крыло галубкі пасцялі.**

**Абодвум з дзён маленства**
**босых**
**Зайздросціў я, што ні кажы,—**
**Глядзеў услед арлу ў нябёсах,**
**Ды галубінай быў душы.**

**А ўсё ж калісьці, ў нейкім**
**ранні,**
**З праменнем першым па расе**
**Не клёкат грозны — вуркаванне**
**Няхай мне вецер прынясе.**

Я працытавала верш са зборніка «Калі ласка», выдадзенага ў 1972 г. Якім жа было маё здзіўленне, калі зазірнула ў выдавецкую анатацыю: «Як і ў папярэдніх сваіх кнігах, у новым зборніку вершаў народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка апявае Савецкую Радзіму, слаўную камуністычную партыю, людзей працы, якія ствараюць матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці, будуюць светлую будучыню». Ці настолькі прыстала да аўтара амплуа «апявальніка», што ад яго ніхто ўжо нічога іншага не чакаў, ці проста заштампаваліся рэдактары?

Цяжка меркаваць, што болей спрыяла ўнутранаму разняволенню паэта — грамадска-палітычныя змены ці рэфлексія сталага ўзросту, калі хочаш-не хочаш вяртаешся думкамі ў дзяцінства і юнацтва, асэнсоўваеш перажытае, сумуеш па незваротным. Я асабіста схіляюся да першай версіі, хаця і не настойваю на ёй. Хто ведае, нарадзіся паэт на паўстагоддзя раней, магчыма, мы б мелі ў яго асобе лірычнага генія, а не трубадура Савецкай улады. І ганарыліся б ім не меней, чым Купалам, Коласам, Багдановічам, Гаруном... Між тым, у народзе дасюль ходзяць хлёсткія чатырохрадкоўі, абумоўленыя ў значнай ступені празмернай «пісучасцю» слыннага творцы, поўнай адсутнасцю самакрытычнасці ды мастацкага адбору. Іранічнае стаўленне, замацаванае ў масавай свядомасці, вядома, не спрыяе аб'ектыўнай ацэнцы сталай творчасці Петруся Броўкі. Што да яго навуковых заслуг пад час працы ў БелСЭ і чалавечых якасцей, то яны бясспрэчныя.

Пры ўсёй сваёй творчай эвалюцыі Пётр Усцінавіч у канцы жыцця не зрабіў спробы пераглядзець напісанае ў ранні перыяд, паўтару — надзіва працяглы. Ён толькі бясконца правіў, караціў і перапісваў вершы, ад чаго якасць кніг істотна не мянялася. Не адбылося ў яго, у адрозненне ад А. Куляшова, П. Панчанкі, істотнага абнаўлення светапогляду, пераадолення наіўных, прасталінейных поглядаў і перакананняў. З выдання ў выданне пераходзяць адны і тыя ж гулкія, пустацелыя ўзоры сацрэалізму, здольныя скампраметаваць у роўнай ступені як іх стваральніка, так і сам метад. А мо паэта правакавалі шчодра прадастаўленыя выдавецкія аб'ёмы?

Не лічачы незлічоных арыгінальных, перакладных зборнікаў і ранніх выбраных, у паэта выходзілі: 1957 г.— двухтомнік, 1965 — чатырохтомнік, 1969 — зноў два тамы выбранага, 1978 — сем тамоў Збору твораў, 1979 — выбранае ў «Бібліятэцы беларускай паэзіі», 1980 — вершы розных гадоў, 1982— вершы апошніх гадоў. І вось нарэшце падыходзіць к фіналу выданне навуковага дзевяцітомнага Збору твораў у «Мастацкай літаратуры».

Адгонім падазрэнні наконт меркантыльных разлікаў з боку ініцыятараў і складальнікаў выбраных, аднак заўважым, што без падхалімажу і выдавецкай інерцыі тут не абышлося. І зусім ужо не паддаецца аналізу — з якою мэтаю, дзеля чыіх амбіцый спатрэбілася Інстытуту літаратуры АН БССР ажыццяўляць другое навуковае выданне, амаль ідэнтычнае папярэдняму? Якраз тады, калі непрададзеныя рэшткі апошняга ішлі пад нож. Не хапіла рашучасці (ці мудрасці?) пераглядзець старыя планы? Ну, адшукалася тое-сёе ў апошнія гады з ненадрукаванага, то, папершае, далёка не ўсё і варта абнародавання («эпісталярная спадчына», напрыклад), а падругое, усё вартае можна было б выдаць асобна, а не адцягваць акадэмічныя сілы на няўдзячную і заведама непатрэбную працу. Бо і аўтарытэту П. Броўку яна не прыбавіла, і матэрыяльных затрат запатрабавала, і перашкодзіла, па сведчанні навукоўцаў, выданням іншых аўтараў.

Упершыню «Аўгіевыя канюшні» выбраных твораў чысціліся пасля смерці Сталіна. Жывыя аўтары шмат што павыкідвалі самі, за нежывых пастараліся рэдактары. Не за гарамі яшчэ адзін істотны перагляд, яшчэ адна «чыстка», звязаная не столькі з пераменай курсу, колькі з духоўным разняволеннем, з пераацэнкай гістарычнага шляху і сацыялістычнага выбару. Але найперш ачышчэнне павінна адбыцца ў нашай свядомасці, у падыходзе да мастацкай і культурнай спадчыны народа. Адвеяць зерне ад мякіны — задача самай бліжэйшай будучыні.

натхненнем. Выкіньце хоць адзін з названых элементаў, і вы атрымаеце не мастацкі пераклад, а штукарства. Штучна канструяваць верш і потым шукаць у ім мастацтва паэзіі няможна. Таму калі гаворка ідзе пра пераклад паэзіі, трэба цвёрда ведаць: толькі паэт можа перакласці паэзію, а паэт ва ўсіх краінах свету — выразнік народнай душы, нацыянальнай свядомасці.

Сапраўдных паэтаў заўжды мала, сапраўдных перакладчыкаў паэзіі — яшчэ менш. Не без падстаў кажуць, што быць імі — не прафесія, а стан душы. Ніколі стан душы не стане масавым. За гады свайго існавання Мінскі інстытут замежных моў выпусціў тысячы педагогаў, і толькі некалькі з іх — прызнаныя пісьменнікі, перакладчыкі. Але не варта шкадаваць сілы на высакародную звышзадачу, на ўзбагачэнне духоўнага патэнцыялу ўласнага народа.

Праблемы перакладазнаўства, як і праблемы практыкі мастацкага перакладу, не існуюць самі па сабе, адарваныя ад рэальнасці: яны ўзнікаюць, калі ёсць гісторыя мастацкага перакладу, у якой — постаці мінулага, ланцуг традыцыйных і адносна наватарскіх дасягненняў, і таксама грунтоўныя ідэі, якія стануць пачаткам, падасновай тэорыі, калі ёсць шэраг сучасных майстроў з іхнімі поспехамі і няўдачамі, якія маштабна суадносяцца з мінулым вопытам, выдавецтвы, якія здольныя матэрыялізаваць мастацтва перакладу, і, нарэшце, база для падрыхтоўкі перакладчыцкіх кадраў. З іх вынікае і на іх уплывае перакладазнаўства.

Рэальна мы маем багатую, але слаба ўсвядомленую гісторыю мастацкага перакладу, дакладней, усвядомленую праз разрозненыя артыкулы, праз кавалкі шкла неверагоднай глыбіні і прыгажосці, якія, аднак, яшчэ не складзіся ў вітраж. Памойму, час ужо наспеў, адсутнасць фундаментальнай працы па гісторыі мастацкага перакладу—сур'ёзная перашкода на шляху развіцця беларускага перакладазнаўства.

Сучасны або найноўшы мастацкі пераклад, які ахоплівае зробленае прыкладна за два дзесяцігоддзі, уяўляецца як складаны, супярэчлівы перыяд,—вялікія дасягненні і добрыя, хоць і меней значныя пераклады стаяць побач з шэрымі чадамі кан'юнктуры, аднак увогуле можна гаварыць пра пераемнасць, пра тое, што відавочна складваецца беларуская школа мастацкага перакладу, а гэта не так ужо й мала. Каторыя з нашых сучасных перакладчыкаў заслугоўваюць не куртатых артыкулаў, а грунтоўных манаграфій.

Ёсць у нас і дзяржаўныя выдавецтвы, якія шмат рабілі і робяць, каб давесці пераклады да чытача. Не яны вызначалі выдавецкую палітыку, не кажучы ўжо пра палітыку нацыянальную, не яны давялі рэспубліку да 0,8 беларускай кнігі на душу насельніцтва ў год. Выдавецтвы маглі б стаць важным фактарам культурнага адраджэння Беларусі, адна ва ўмовах жорсткага эканамічнага крызісу, калі цэны на паперу атрымалі свабоду дачасна (а я лічу, што папяровы крызіс наўмысна справакаваны і мае за мэту біць па галоснасці), у такіх цяжкіх умовах дзяржаўныя выдавецтвы літаральна на парозе банкруцтва, і толькі ўтаймаванне цэн можа выправіць становішча.

Што тычыцца падрыхтоўкі кадраў, найбольш мяне турбуюць два аспекты.

Першы з іх выкліканы тым, што можна рыхтаваць толькі патэнцыяльнага перакладчыка: адно жыццё падкажа, ці хопіць таленту, ці досыць будзе лінгвістычнай інтуіцыі і «індзейскага» слыху. Талент не набываецца ў сценах факультэта ці інстытута, талент дадзены Богам, які, вядома, няроўна дзеліць, пры гэтым не выдае дыпломаў, не забяспечвае працай, размеркаваннем.

Адначасова няблага было б помніць, што нашую краіну задумалі — або абвясцілі, што задумалі — як краіну дружбы народаў, але гэта былі словы, на самай справе мы атрымалі краіну падрадкоўнікаў.

Адсюль і мяркую, што факультэты і інстытуты замежных моў маглі б вырашыць праблему падрыхтоўкі патэнцыяльных перакладчыцкіх кадраў мастацкай літаратуры ўздымам адукацыйнай планкі вышэй за ўзровень чыста педагагічны, што ішло б на карысць будучым педагогам, і абменам студэнтаў, якія б вывучылі мову іншага народа нашай краіны, літаратуру, культуру, жыццё. Нармальныя сувязі грунтуюцца не на лозунгах, а на ведах, якія потым перадаюцца, у прыватнасці, праз школу, праз мастацкі пераклад.

Зразумела, такога парадку змены даюцца дужа цяжка, спатрэбіцца глыбокая пераробка праграм, перагляд гадзін, якія марна праглынаюцца ваеннымі катэдрамі і рознай іншай непатрэбшчынай, але, як я думаю, іншага выйсця проста няма.

Другі аспект звязаны непасрэдна з адраджэннем беларускай культуры: валодаць замежнымі мовамі недастаткова. Спецыяліст без роднай мовы, без роднай культуры — недароблены спецыяліст, служыць адраджэнню культуры такі спецыяліст не зможа.

Хачу адзначыць, што Мінскі інстытут замежных моў апошнім часам паварушыўся, пэўныя факультэты запрасілі на працу беларускіх пісьменнікаў, якія займаюцца мастацкім перакладам, мацнее катэдра беларускай мовы і нацыянальнай культуры, рыхтуюцца да друку замежна-беларускія слоўнікі. Карацей кажучы, засвяцілася надзея, і гэта дужа добра.

Мне застаецца сказаць, што да ўсяго ёсць і навуковыя кадры, але яны крыху раскіданыя і часам ставяць сабе розныя мэты. Таму варта было б яднаць намаганні акадэмічных, універсітэцкіх і інстытуцкіх вучоных, арганізаваць часовыя калектывы, каардынаваць тэмы і ўрэшце выйсці на добрае супрацоўніцтва, нават падключаць практыкаў мастацкага перакладу разам з адпаведнай секцыяй Саюза пісьменнікаў Беларусі. На карысць справе, тэорыі і практыкі мастацкага перакладу, адраджэнню культуры Беларусі.

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

МІХАСЬ КАЦЮШЭНКА
ПРЫЗНАННЕ
ЛЕВАГА КРАЙНЯГА

# Сітуацыі...

**«Прызнанне левага крайняга» —новая кніга Міхася Кацюшэнкі, выпушчаная выдавецтвам «Мастацкая літаратура».**

**Галоўны герой рамана «Сітуацыя»—ім адкрываецца зборнік—саракатрохгадовы начальнік самастойнага Аддзела, «без пяці мінут доктар навук». Мікалаю Сяргеевічу Сівалапу могуць пазайздросціць многія. Службовая машына, уласная «Волга», дача, шыкоўная кватэра... Падцягнуты, маладжавы, падтрымлівае належную спартыўную форму, пастаянна гуляючы ў тэніс. З падначаленымі ўзаемаадносіны неблагія: паважаюць свайго кіраўніка.**

**Аўтар не хавае сваіх сімпатый да Сівалапа, хоць і не ўзводзіць яго ў нейкі ідэал. Так, Мікалай Сяргеевіч пястун лёсу, але, бясспрэчна,—асоба, чалавек справы. Бяда, аднак, у тым, што яго ўпэўнены жыццёвы поступ не заўсёды суадносіцца з нормамі маралі. Вось—«сітуацыя»: цяжка, невылечна захварэў генеральны дырэктар Гаўрыла Іванавіч, і тут ужо Сівалап прымае ўсе захады, каб не толькі не ўпусціць запаветную пасаду, але і адразу заняць яе.**

**У рамане, шкада, не абышлося і без пэўнай зададзенасці аўтарскіх развагі. Усё ж Сівалапа, як спецыяліста, у многім можна зразумець. Паўтараю, як спецыяліста, а не як чалавека. Ён павінен расці як кіраўнік... Прамаруджванне магло б прывесці да таго, што адказную пасаду змог заняць нехта іншы, менеі таленавіты і болей напорысты, настойлівы, «прабіўны». Такія законы жыцця. І з імі даводзіцца лічыцца.**

**Тыя эпізоды, дзе М. Кацюшэнка не проста фіксуе падзеі, але пранікае ў іх сутнасць, выглядаюць надзіва пераканаўча. У гэтым сэнсе ўражвае завяршэнне рамана: «...Старанна паголены, у новенькім англійскім касцюме, у машыне з іншым нумарам і іншай маркі ён ехаў у Цэнтр. Ён спакойны, вельмі спакойны. Усё выйшла так, як ён планаваў. І цяпер у машыне не ён, а іншы, абноўлены думкамі і планамі чалавек».**

**Думаецца, у «Сітуацыі» пісьменнік намацаў перспектыўны для літаратуры шлях: уваходзіны ў само жыццё, тое жыццё, якое на сучасным этапе стварае якраз сітуацыі, аб якіх яшчэ нядаўна і падумаць нельга было. Іх жа і трэба даследаваць—па-мастакоўску ўважліва, шматгранна...**

**Аповесць «Прызнанне левага крайняга»—таксама твор вострa сучасны. М. Кацюшэнка адзін з нямногіх у беларускай літаратуры, хто паспяхова раскрывае тэму спорту (з цікавасцю ў свой час была сустрэта яго аповесць «Трэці раўнд»). На гэты раз аўтара прывабіў лёс левага крайняга мінскай каманды «Дынама», які адначасова выступае і ў зборнай СССР, Кастуся Паўловіча. Чытачы, дасведчаныя ў футболе, лёгка пазнаюць, хто «стаіць» і за самім Паўловічам, і за іншымі персанажамі. Але ў аповесці важней не гэтая «дакументальнасць» асновы, а тая вастрыня, з якой М. Кацюшэнка спрабуе (і гэта яму ўдаецца) раскрыць, паказаць тыя бакі спартыўнага жыцця, пра якія балельшчык не ведае.**

**Перад намі—споведзь Кастуся Паўловіча. Апавяданне ад першай асобы—адзіная магчымасць пазбыцца павучанняў, таннага маралізатарства. Пра ўсё расказвае сам Паўловіч. Пагаджаешся, што многае ў яго жыцці нагадвае сабой нешта нерэальнае, пазбаўленае трывалай зямной асновы: «Часам мне здавалася, што я жыву ў ілюзорным, нерэальным свеце, гляджу нейкі каляровы фільм, у якім сам з'яўляюся галоўным героем, і ўсё адбываецца не са мной». Гэтая раздвоенасць асобы — сведчанне нясталасці характару, адсутнасці пэўнай пазіцыі. Кастусь Паўловіч, нягледзячы на спартыўныя дасягненні, прызнанне тысяч паклоннікаў, на жаль, пакуль што як асоба не сфарміраваўся. Пошукі самога сябе працягваюцца. І, як бачна з аповесці, небезвынікова.**

**Два новыя творы М. Кацюшэнкі—два ўпэўненыя подступы пісьменніка да асэнсавання нашай складанай сітуацыі.**

**Г. НЕКРАШЭВІЧ.**

Ніна МАЦЯШ



## І там...

Багаслаўлю і невычэрпны смутак,
Які струціў маю ўсю маладосць,
Бо вось ён, дар за ўсе мае пакуты:
Твая міласць.

Яшчэ гусцецьме долі соль на скронях,
Яшчэ душыцьме тленнага вагар,
Але душу ад гібелі ўбароніць
Той цудны дар.

Ні зрокам і ні ўявай за зямную
Не зазірну я за сваю мяжу.
О, каб знаццё, што ты і там — пачуеш,
А я — скажу:

— Багаслаўлю і невычэрпны смутак,
Які струціў зямную маладосць,
Бо вось ён, дар за ўсе мае пакуты:
Наша міласць.

## Памяці Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага

Бываюць душы — светлыня сама,
З нялёгкім конам — цемнату
адпрэчваць.
Вас Беларусі выкахала Вечнасць,
Але ў гурмы пытаць пра вас —
дарма:
Не ведае, не прыгадае Вас.
Таго, хто так нямодна, далікатна,
Нястомна ў час, да ганьбы духастратны,
Вялічыў Дух, каб ён ушчэнт не згас...
Каб выспявала, як зара, пара,
Калі на мове сэрца і служэння
Высока зашугае ўспалымненне
І бел-чырвона-белага кастра.
Калі, стваральнай мудрасцю жывы,
Згартуюць люд Асвета, Памяць, Вера.
...І недзе там, у яснасяйных сферах,
За свой народ усцешыцеся Вы!

## У павадзі недабраты

Не трэба, мой дружа, не будзем.
Апрыкрыла і гаварыць
Пра ковы, пра чад нашых будняў,
Як свет гэты белы, старых.

На макаўцы тлуму і стрэсу
Не ўшчэнт абяскрылены мы:
Пад клічы гусінай сурмы
Выпырхвае лісцейка бэзу.

На градцы на мамінай крокус
Ліе незямное святло,
І ластаўка ладзіць жытло
Пад радыяцыйнаю кроквай...

Свет белы не вычарпаў лекаў.
І ў павадзі недабраты
Хоць зрэдзь чалавек чалавеку
Ёсць ласка жыцця.
Як мне — ты.

## Не ведаю

Не ведаю, адкуль прыйшла,
Не ведаю, куды пайду,
Не ведаю, чаму аж так
Я мушу спазнаваць бяду.

Няма так шмат з маіх сяброў,
Так шмат з радні маёй няма.
Дзе вы, матуля, сёстры, брат!
Хоць знак які падай мне, ма!..

Не ведаю, адкуль прыйшла,
Не ведаю, пайду куды,
Не ведаю, нашто цвітуць
Мае цярновыя сады.

Як б'ецца сэрца, родны мой!..
Ці хопіць нашага святла,
Каб і на сцежцы незямной
Нам стрэча дадзена была!

## Галінка плюшчу

*Гляджу на галінку плюшчу пакаёвага:*
Упарта імкнецца яна з кута цёмнага
Да праёму ваконнага,
Лістком за лістком сягае
Наўпрост да святла,
І няма на шляху да яго
Ніякой перашкоды.
Толькі ж раптам
Бы нейкая сіла галінку спыняе,
І нават убок процілеглы
Заварочвае!
Як прыкметна мізэрнее лісце яе
У такім адхіленні —
У шуканні ранейшага сонца свайго,
Падаванага ёй
У час побыту ў іншым пакоі...
Але на шляхах у былое
Няма поступу ўперад.
І выпростваецца сцябліна,
І разгортвае новае сакавітае лісце
У руху да Сутнага!
...Гляджу на галінку плюшчу пакаёвага:
Бачу самую сябе.

## Што ацяміць?

«Няма дасканаласці ў свеце»,—
З горыччу вымавіў мудры француз
Голасам Ліса з «Маленькага прынца».
Людзі адварочваюцца ад Бога,
Бо не бачаць, каб Ён пакараў
вінаватага
*У забойстве, у гвалце, ў бяздушшы.*



*Сяргей Вераціла*

# Цячэ, кружляе рэчка Рось

*мініяцюры*

●

Цякуць у Нёман рэкі: Шчара, Іса, Котра, Бярэзіна, Рось, Зэльвянка, Чорная Ганьча, Сула, Іслач, Свіслач, Уша, Лебяда, ёсць сярод іх і такая з мілаю і смешнаю назваю: Чапунька. І яшчэ цякуць у Нёман: Апіта, Якунька, Скідалянка, Ваўлянка, Дзітва, Ізба, Жужма, Тур'я і яшчэ многа іншых. З іх складаецца Нёман ад Стаўбцоўскай раўніны да Куршскага заліва.

З рэчак і ручаёў складаюцца магутныя хвалі Нёмана, як з зусім маленькіх хвілінак і даволі працяглых гадзінаў сцякаюцца магутныя хвалі часу. Дарэчы, колішнія гісторыкі называлі наш Нёман — Хронасам, што па-грэчаску — Час. І нясе наш Нёман хвілінкі ручаёў і гадзіны рэчак у акіян Вечнасці.

І нясуць сваю ваду ў Вечнасць і Шчара, і Котра, і Рось, і Свіслач, і рэчка са смешнай і мілай назвай Чапунька.

●

Снег. Цэлы дзень снег. А я еду ў цёплым ЛАЗе і слухаю і гляджу. Гляджу за аўтобусную шыбу на бедны, мілы краявід даліны рэчкі Рось. На старой ракіце крук. Я ўпэўнены — ён прынясе мне вады і жывой, і мёртвай, Воўча-Вялесе, толькі б не пераблытаць! Я еду і слухаю. Ззаду і спераду гамоняць гучна, мусіць, з вяселля, а калі не, дык з другога свята. Прыжмуру вочы і бачу на сталах і кольцы пальцам пханай, і ружовае сала, і гарачыя галубцы, і дрыжачы ад радасці моцных страўнікаў халадзец, і сопкая бульба, і пякучы як каханне і сорам усіх вякоў — хрэн. І да хрэну — белагаловая і свая ўпотай ціснутая.

Усяго за сталом багата: і па гарызанталі, і па вертыкалі. І прымусу не бракуе. І там гамоняць, і тут гамоняць. І гамонкі цякуць скрозь мяне бруямі ненапітнай музыкі. Музыкі, што нясе ў сабе залацінкі трапных, файных слоўцаў тутэйшай гаворкі.

Тут мая крыніца, тут мая жывая і мёртвая. Воўча-Вялесе, толькі б не пераблытаць!

А я еду ў цёплым ЛАЗе і слухаю.

●

Стаяў пад Ваўкавыскам замак. А ў XVII стагоддзі спалілі яго шведы. Ды так грунтоўна, што дагэтуль і рэштак знайсці не могуць. Затое лес ёсць. Замкавым яго называюць. А ад крэпасці самой ну хаця б руіна якая засталася б. Чыста.

Хаця руінаў на Гродзеншчыне нібыта і не бракуе: рэшткі Лідскага замка, рэшткі Навагарадскага замка...

●

Чаго добрага, а радні ў беларуса багата. З Захаду — адзін старэйшы брат, з Усходу — другі. Адзін брат кліча нас малымі палякамі, другі — белымі расейцамі, а часам зусім не прэч назваць насельніцтвам ці то крэсаў усходніх, ці то Паўночна-Заходняга краю.

Крый Божа, часам лепш сіратою нарадзіцца...

●

Люблю слухаць, як тутэйшыя людзі «па-гарадскому» гавораць:

— Атлічная жэншчына.

Альбо:

— Замячацельны чалавек.

Гэта значыць, што жанчына чымсьці адрозніваецца ад іншых, а чалавек здольны прыкмячаць, што, дзе, як, навошта.

●

Стары млын з запрудай. Ля запруды ставок разліўся нішто сабе. Асабліва летам прыгожа. Сярод зялёнага дывана раскі багатым уборам — балотныя лілеі. Два лебедзі сякуць дыван, пакідаючы чорны след, пад якім — глыбіня, якую чамусьці не памераў у дзяцінстве, калі знаёміўся з кожным падводным карчом. Праплывуць лебедзі, а праз нейкі няпэўны час раска ізноў сцягвае чорны прагал зялёнага возера.

Там, дзе вёска Подрась, дзе чарговы раз кружляе рэчка Рось, ёсць стары млын з запрудай. А колькі не менш цудоўных краявідаў месціцца ў галерэі, імя якой — Гродзенская зямля!

●

Край мой некалі быў зямлёй вольналюбівага народа яцвягаў. З канца X стагоддзя «на Яцвягі» хадзілі князі Палян «ныне рекомая Русь». Яцвязь па-балтакрыўску — Чорны. Самі светлавалосыя, яны маліліся на сваю чорную матулю-зямлю. А потым, калі Русь канчаткова заваявала зямлю яцвягаў, зямля змяніла імя і стала звацца Чорнай Руссю. Але дасюль у краі маім жывуць нашчадкі вольналюбівых Яцвягаў, якія шануюць сваю чорную матулю-зямлю, упрыгожваючы яе садамі.

●

Еду ў Ваўкавыск аўтобусам, што пілуе праз непагадзь з Гудзевіч. Ведаю, што на тым канцы маршруту жыве Настаўнік, але ніяк не выберуся заехаць пагаманіць гадзіну-другую, выпіць кілішак гарэлачкі. Можа, толькі каб аўтобус сам завярнуў, але машына строга пілуе па зададзеным маршруце, і я сустракаюся з гудзевіцкім настаўнікам толькі ў Мінску на якім-небудзь пасяджэнні. Еду ў Ваўкавыск аўтобусам і думаю: «Няўжо не паверне?...»

●

Цячэ, кружляе Рось. З аднаго боку — Ваўкавыск-горад, з другога — Яцвязь-вёска. І жылі тут спрадвеку крывічы: славяне і балты. І стаялі праз рэчку Рось: Ваўкавыск-горад і Яцвязь-вёска. І паслаў магутны конунг Наўгародскі ды хакан Кіеўскі Уладзімір варагаў сваіх на рэчку Рось, і з таго часу доўга гуляў чырвоны певень па стрэхах крывіцкіх хатаў — славян ды балтаў, і доўга пілі груганы жыццё з маладых крывіцкіх вачэй — славян ды балтаў.

І цячэ, цячэ, кружляе рэчка Рось. З аднаго боку — Ваўкавыск-горад, з другога — Яцвязь-вёска. І жывуць тут спрадвеку тутэйшыя людзі: хто кліча іх рускімі, хто палякамі, а хто па-новаму — беларусы.

І цячэ, і кружляе Рось...

●

І тут застаўся ягоны след. Святы цар, Краснае Сонейка. Згвалціў красуню, крывічанку на бацькоўскіх вачах, а потым бацькоў пазбавіў радасці дыхаць на вачах крывічанкі святой. Хадзіў на Яцвягі, на Вяцічы, Дулебаў прымучваў. Бурыў, гвалціў, забіваў, рабаваў. А потым у святыя падаўся.

І на маёй памяці быў такі «святы». Сына зрабіў алкаголікам, жонка біцця не вытрымала ды сабе вяроўку на шыю ўздзела. Не конунг Наўгародскі, не хакан Кіеўскі, а мужык з вёскі Скрыбава, што паміж Красным Сялом ды Ендрыхаўцамі. А зараз моліць аб

Сяргей Вераціла нарадзіўся ў 1961 годзе ў мястэчку Краснае Сяло Ваўкавыскага раёна. Друкаваўся ў рэспубліканскіх і саюзных часопісах. Зараз жыве і працуе ў г. Мінску.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

**А Бог у душы — знябыты.**
**Царква ў паводзінах роду людскога**
**Угоджвае прошукі д'ябла**
**І сіліцца перамагчы яго**
**Недаверам да поўнае чары жыццёвай,**
**Малітвай Хрыстовай**
**І адпрэчваннем усялякае іншае веры.**
**А храм у душы — зруйнаваны.**
**Дзіўлюся Прыродзе зялёнай,**
**Яе дасканаласці:**
**У адным толькі лесе палескім**
**І прасторы хапае, і грунту**
**І яліне пахмурай, і асіне трымклівай,**
**І бярозе святлістай, і ядавітаму воўчаму лыку,**
**І званочку пяшчотнаму, і крапіве зласлівай,**
**І процьме ўсялякіх іншых,**
**Такіх непадобных адна на другую істотаў.**
**Як воўк і мурашка,**
**Як салавей і гадзюка.**
**Але ўсім трэба сонца,**
**І ўсе разам шукаюць**
**Ягонае ласкі жывільнай.**
**А ў вянца Прыроды —**
**Істоты ў чалавечым абліччы —**
**Калісьці былі ўжо Садом і Гамора.**
**Сёння маем Чарнобыль,**
**Немінальнае наша чорнае гора —**
**Непазбежную кару за глум скарбаў духоўных,**
**За пагарду да гармоніі свету.**
**Ды відно: нават гэткая кара —**
**Нам не лекі.**
**І папраўдзе здаецца ўжо,**
**Што зжахнуць і гаюча ацяміць нас зможа**

**Толькі тая Маланка Прарочая**
**У небе счарнелым,**
**Якая абвесціць:**
**ПОЗНА.**

## І гэты вечар

**І гэты вечар, мабыць, не забудзецца:**
**Няма святла ў двары, няма на вуліцах —**
**Раптоўна згасла ў гарадку святло.**
**Абсады цень да ценю дома туліцца,**
**І ўсё глыбокай цішай спавіло.**

**Шукаюць вусны вуснаў — не натоляцца...**
**Здаецца, толькі мы ва ўсёй ваколіцы,**
**Невярушкой, нібы рачное дно,**
**Адзіна мы, ды зорачка-свавольніца,**
**Што ўсё ж не-не — дый зазірне ў акно.**

**Дый зноў, нібы збянтэжана, схаваецца...**
**Ты хто нам, зорка! Наша ахавальніца!**
**Ці свет, куды мы ў часе адляцім!**
**Таго адлёту на зямлі лякаюцца,**
**Таму што бачаць толькі смерць за ім.**

**О, калі б кожны памятаў, што вечны ён!**
**Што расцвіце прастораю сардэчнаю!**
**Што побыт наш зямны — ўсяго луска,**
**Такая ўжо і зараз недарэчная,**
**Дзе ў змроку свеціцца ў руцэ рука!..**

нечым свайго баптысцкага бога і ад дурных крывіцкіх жанок пашану мае.
Лёс твой гэтакі, крывічанка святая.

●

Памятаю з газетаў быццам фразу: «Увесь савецкі народ з радасцю і ўздымам успрыняў гістарычныя рашэнні...» І ніхто не аспрэчваў мудрых і гістрычных пастаноў, бо той час быў добраахвотнай прынудзілаўкай, калі верныя і нястомныя патрабавалі яшчэ і радасці на змарнелых, запалоханых тварах. Як у тым летапісе пра хрост Кіева: «Затым паслаў Уладзімір па ўсім горадзе са словамі: «Калі не прыйдзе хто заўтра на раку—ці то багаты, ці бедны, ці жабрак, ці раб — хай мне ворагам будзе». Пачуўшы гэта, з радасцю і лікаваннем пайшлі людзі».
Вось гэтак, браточкі мае.

●

Сяджу і трымаю ў руках святочны нумар «Свабоды». У газеце — твары першага ўрада Крыўскай зямелькі. Не, зусім не Сакраты глядзяць на мяне, а звычайныя для пачатку веку твары інтэлігентных людзей. Спакой, розум, талерантнасць, выхаванасць жэстаў сама сабой чытаецца з твараў, рук, постацяў. І яшчэ я адчуваю за гэтым фотаздымкам трагізм,— як гэтых людзей, так і ўсёй маёй Крывіцкай зямелькі, якую зараз завуць Беларуссю.
Сяджу і думаю: ці многа зараз можна назбіраць такіх вось звычайных на пачатку веку, талерантных, разумных, спакойных, з выхаванымі жэстамі?

●

Стары Крук зляцеў з голае свае ракіты, схапіў у свае жалезныя кіпцюры Сонейка і панёс яго на захад.
Ценем крылаў яго была Ночка.
А на ранку Пеўнік-вогнік павітаў Сонейка.
І толькі стары Крук нерухома сядзеў на голай сваёй ракіце.

●

Адным з першых насельнікаў зямлі ваўкавыскай быў шахцёр. Ён свідраваў ласіным рогам крэйдавыя пласты і здабываў стратэгічную сыравіну — рухавік неалітычнага прагрэсу — крэмень. Сіні, ажно да чарнаты камень з вогненным сном унутры. Калі доўга ляжыць на паверхні, дык трохі бялее. Крэмень гэты мы называлі гегамі. І будзілі снулы агонь, цёрхаючы гегай аб напільнік. Крэмень прачынаўся і сыпаў сотні балючых знічак — разам з драбноццем асколкаў.

●

Крэмень хаваецца ў крэйдавых пластах. А падзол і гліна родзяць граніт. Багата камянёў родзіць тутэйшая глеба. Зараз ад Краснага Сяла да Ваўкавыска асфальт ляжыць, а помню, гадоў колькі таму дзікім каменем была засцелена: ад Ваўкавыска да Воўпы і да Карпаўцоў, і да Ендрыхаўцаў. Едзем у аўтобусе ззаду, ды так падкідвае, што глядзі, каб зубамі языка не пасмакаваць. Але не толькі на камяні ўрадлівая зямля, тут і ячмень, і бульба, і жыта, і буракі. І дзічкі багата на палях, а ў садах слівы: рэнклёды ды венгеркі. А яшчэ яблыкі. І агрэст. І парэчка. І...
Ды не буду, а то поўны рот сліны набегла.

●

Прыйшоў у горад Сіноп апостал Андрэй Пятроў брат і вучыў там людзей, а потым быў на Дняпры і на Ільмені, а мо і да нас на Крыўскую зямельку заглядаў. Хацеў навучыць нас іярданскаму мыццю, але трапіў у лазню. Дык потым недзе да дзесятага стагоддзя не знаходзілася ахвотнікаў вучыць нас мыцца.

●

Тут у Красным Сяле жывуць блізкія мне людзі. Хітрыя і простыя, дурнаватыя і разумныя. Усяго па крысе. А й жыве сярод іх дзядзька Міхась Вераціла. Каму што наканавана, а яму запаветы спаўняць: дзяцей гадаваць, дом будаваць, сад садзіць, кніжку пісаць. Гэтак ён сваю родную старонку шануе. І я не чужаніна тут якая, хоць і не жыву цяперака ў Красным Сяле, але часам паляціць душа да радзімы сваёй, а за душою і сам не ўтрываю: куплю квіток на цягнік «Гомель—Гродна» дый прыеду да здавён знаёмага жыцця.

●

Таго, хто ходзіць да касцёла, завуць палякам, таго, хто да царквы,— рускім. А мы —сакуны. Нам Бог дзіркі паміж зубамі пасвідраваў, каб свістаць ды цыкаць умелі. Сакуны мы, тутэйшыя. Карпаўскія, мачулянскія, росянскія, скрыбаўскія, калядзіцкія, краснасельскія... Гэта нашая зямля і косці дзядоў нашых тут пахаваны. Тут усё гісторыяй роду і племені: вёска Яцвязь — след былых Яцвягаў, вёска Гудзевічы — памяць слынных Гудаў, і Карпаўцы. Яшчэ адныя Карпаўцы ёсць у Свіслацкім раёне.
У далёкай Гішпаніі была некалі краіна — Галія Тарасконская, населеная кельцкімі плямёнамі карпаў. Крый мяне Божа, але я нічога не хачу сказаць!

●

Тры вялікія ракі цякуць на Беларусі: і Днепр, і Дзвіна, і Нёман. І нясуць яны сваю ваду па нашай зямлі, так бы мовіць, транзітам, толькі Нёман бярэ пачатак на Беларусі. Дый яшчэ Прыпяць дзве трэці шляху ідзе па Беларусі, ды й яшчэ Сож толькі ў самай верхавіне не «наш». А вось Бярэзіна — яна ўся тут — ад пачатку да канца. Самая патрыятычная з буйных беларускіх рэк.

●

Ехаў праз Беларусь на Маскву чалавек. Быў ён паслом. І ехаў ён з еўрапейскае сталіцы Вены. І спыніўся ён адпачыць у Ваўкавыску ў мясцовым гатэлі, ды гэтак яму спадабалася, што потым у сваім «Інтэрнарыі» доўга мерыў Сігізмунд Герберштэйн шлях свой на ўсход адлегласцю ад Ваўкавыска. А было гэта ў XVII стагоддзі.
І зараз у Ваўкавыску ёсць гатэль. Але мне няма патрэбы правяраць яго кшталт, бо за 12 кіламетраў ад Ваўкавыска ў мястэчку Краснае Сяло жывуць мае бацькі. І хоць я не пасол, але нат дзень-другі гоіць раны і надае сілы перацярпець і стрываць усе тыя цяжкасці, што пачынаюцца па-за парогам утульных сцен бацькоўскага гнязда.

●

Адзін мой сябра, Ігар Бабкоў—мяккі, мілы чалавек — назваў Беларусь «еўрапейскім калідорам». Што ж, магу толькі дадаць, што суседзі нашыя не заўсёды вылучаюцца выхаваннем і дзверы ў гэты калідор часцей за ўсё адчыняюць нагамі.

# З ПЕСНЯЙ ПА ЖЫЦЦІ

**Сцяпану ЛІХАДЗІЕЎСКАМУ споўнілася б 80...**

Ёсць людзі, якія пражывуць усё жыццё як у Бога за пазухай — сытыя, апранутыя, абутыя, для якіх усюды адкрыты дзверы і якім ніхто нідзе не псуе настрою і нерваў. Але яны чамусьці заўсёды бываюць сумнымі, нечым незадаволенымі і лічаць сябе пакрыўджанымі, а кім, дык і самі не ведаюць. І, наадварот, часта можна сустрэць і такіх, хто на працягу амаль усяго жыцця свайго з'яўляецца своеасаблівым пасынкам маткі-зямлі, каго лёс ніколі не песціў і не гладзіў па галоўцы, хто неаднойчы пакаштаваў і голаду, і холаду, і абразы.. І тым не менш, яны заўсёды бываюць вясёлымі, бадзёрымі, не губляюць надзеі на лепшую будучыню. Яны па жыцці ідуць з песняй, таму што самі яны — песня. Адным словам, аптымісты.

Да апошніх і належаў Сцяпан Ліхадзіеўскі. А лёс яго быў незайздросным.

Паспрабуем уявіць сабе, што жыццё — футбольнае поле, на якім знаходзіўся С. Ліхадзіеўскі. Дык вось, лёс кідаў яго, як той мяч, ад адных варот да другіх. І, нягледзячы на гэта, С. Ліхадзіеўскі ніколі не вешаў галавы і не падымаў рукі са словамі «здаюся». Ён любіў жыццё і жыў надзеямі. Тую крыўду, якая ішла да яго ад злых і нядобрасумленных людзей, стараўся не прыкмячаць, а прынесеныя боль і пакуты заўсёды глушыў нястомнай працай.

Пазнаёміўся я з С. Ліхадзіеўскім роўна шэсцьдзесят гадоў назад, прычым выпадкова. Недзе ў канцы 1930 года завітаў у рэдакцыю газеты «Чырвоная змена» з вершамі пра грузчыкаў (я тады працаваў грузчыкам на чыгуначнай станцыі ў Мінску). У рэдакцыі мяне ўжо трошкі ведалі. Не паспеў я адчыніць дзверы аддзела культуры і літаратуры, павітацца, як загадчык аддзела Марціновіч пачаў знаёміць з юнаком майго ўзросту.

— Знаёмцеся,— сказаў ён,— гэта Паўлюк Буравей,— паказаў ён на мяне,— а гэта Сцяпан Ліхадзіеўскі, Завочна вы, пэўна, ужо ведаеце адзін аднаго?

Не скажу, як мой новы знаёмы, а што датычыць мяне, дык С. Ліхадзіеўскага я добра ведаў па яго вершах, якія часта з'яўляліся на старонках і «Чырвонкі», і «Маладняка», і «Чырвонага сейбіта».

Мы пасля амаль штодзень сустракаліся, як ужо знаёмыя, і ў Доме пісьменніка, і ў іншых установах. С. Ліхадзіеўскі быў прыгожы, чырванашчокі, рухавы, непаседлівы юнак вышэй сярэдняга росту. Заўсёды акуратна апрануты, абуты, пастрыжаны і прычэсаны. Звычайна хадзіў у жоўтай скураной курткі, якую, па ўласным прызнанні, набыў за першы маладнякоўскі «вялікі ганарар», у «камсамольскім» касцюме, жоўтых чаравіках і ружовых гетрах. Паходка яго была лёгкая і рухавая. З твару ніколі не сыходзіла ўсмешка. Вельмі любіў калектыў і наогул людзей. Нездарма ж і абралі яго важаком (сакратаром) камсамольскай арганізацыі (ячэйкі), якая ўзнікла пры Доме пісьменніка ў 1932 г. Кіраваў ён гэтай маладзёжнай пісьменніцкай арганізацыяй нязменна аж да самага чорнага свайго дня.

Сцяпан Ліхадзіеўскі заўсёды ішоў, як кажуць, у нагу з часам. Часта выпраўляўся на новабудоўлі. Неўзабаве з'яўляліся яго новыя творы — вершаваныя і празаічныя, як, напрыклад, паэма «Чырвоныя знічкі на снезе» і кніжка нарысаў пра новую вёску.

Неяк пасля адной з паездак я сустрэўся з ім у Доме пісьменніка:

— Ну, як з'ездзілася, Сцёпа?

— Ды так, нішто сабе,— адказаў ён стрымана.

— Што ўбачыў новага там? — не адставаў я.

Ён спахмурнеў, памаўчаў і потым ціха, амаль што на вуха, адказаў:

— Згвалтавалі вёску. Чужой стала зямля сялянам. А гэта самае страшнае, дружа.

— Так і напішы ў нарысе,— наіўна параіў я.

— Раіш так і напісаць? А што пасля таго са мной будзе, ты падумаў? Бясплатная пуцёўка ў Салаўкі...

С. Ліхадзіеўскі быў схоплены ў сакавіку 1933 года з 3-га курса БДУ і адпраўлены ў «амерыканку» — унутраную турму НКУС Мінска. Пасля паўгадавых пакут на допытах лёс занёс яго ў Паўднёвы Казахстан, у гарадскі пасёлак Сары-Агач, дзе давялося пяро памяняць на кірку, а ловак — на лом і рыдлёўку. Пасля быў настаўнікам-універсалам: выкладаў мову, літаратуру, гісторыю, матэматыку, фізіку. Даводзілася быць фізруком і выкладчыкам спеваў.

У 1936 годзе, калі скончыўся тэрмін зняволення, завочна скончыў Томскі універсітэт, перабраўся ў Ташкент, уладкаваўся на выкладчыцкую работу — спачатку ў сярэдняй школе, а потым і ў педінстытуце. Пазней закончыў аспірантуру пры Ташкенцкім універсітэце (завочна), абараніў кандыдацкую, а потым і доктарскую дысертацыі. Яшчэ праз некаторы час узначаліў кафедру замежнай літаратуры гэтага інстытута...

Так, дзякуючы прыродным здольнасцям, працавітасці і волі С. Ліхадзіеўскі стаў не толькі вядомым паэтам, але і выдатным вучоным-філолагам у галіне замежнай літаратуры. Ён быў адным з лепшых знаўцаў французскай літаратуры эпохі Анатоля Франса. Яго артыкулы па замежнай літаратуры змяшчаліся ў «Беларускай савецкай энцыклапедыі», «Кароткай літаратурнай энцыклапедыі», у «Вялікай савецкай энцыклапедыі». Асобнымі выданнямі выйшлі ў свет дзве фундаментальныя кнігі пра жыццё і творчасць Анатоля Франса. І па-ранейшаму не развітваўся з паэзіяй. Апошняя кніга выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пасля смерці аўтара — аднатомнік яго выбраных твораў.

З С. Ліхадзіеўскім я вёў перапіску да апошніх яго дзён. Ён па-сяброўску дзяліўся планамі і задумамі, прысылаў усё, што друкаваў за межамі Беларусі. Звычайна паведамляў, што і дзе збіраўся публікаваць.

Усе апошнія гады марыў вярнуцца ў Мінск на сталае жыццё. Ужо было дамовіўся з рэктарам БДУ аб выкладчыцкай пасадзе на кафедры замежнай літаратуры, але калі дайшла справа да канкрэтнага вырашэння пытання, усё рухнула. Якніяк, а ў С. Ліхадзіеўскага была сям'я з пяці чалавек.

У адным са сваіх лістоў Сцяпан Іванавіч «скардзіўся» на сваіх сыноў (а іх у яго трое), што «пагражаюць» яму сваёй жаніцьбай. Я павіншаваў сябра з такой надыходзячай падзеяй. Праз нейкі час ён запрасіў мяне на вяселле, на якое, на жаль, я не змог паехаць па стану здароўя.

А яшчэ праз пэўны час атрымаў ад яго жонкі тужлівае пісьмо, у якім яна паведамляла аб раптоўнай смерці мужа, а майго друга. Не стала С. Ліхадзіеўскага 13 лютага 1979 года.

**Павел ПРУДНІКАЎ.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**



●

Бураю нахіленая крона
прыпадае веццем да зямлі...
Гэтак жа і мы безабаронна
з выламленай доляю жылі.

Як гэта, скажыце, удаецца:
з чалавека выпаўзае чын
і чума — духоўнае калецтва —
спараджае тысячы прычын

гадаваць нясвежае начальства,
нетры і паветра рабаваць,
з выradкамі збэшчанымі часта
на фазэндзе тайнай танцаваць...

Скручаны ў рог я, служка трона;
здадзены ў салдаты, як Багрым...
Надаела жыць безабаронна:
— Дзе мая Улада! Скінь жа грым!

Хто там пад савецкага працуе!
Хто мурло за Леніна хаваў!
Столькім пакаленням не шанцуе...
Лёс такі нам Бог наканаваў!

Жорсткі бой ідзе за прывілеі.
Вецер па-над кронай не суняць.
Буду я на возеры лілеі
клапанамі сэрца уяўляць.

●

Наляцела бяда. Бяда...
Парасла лебяда.
Тут не б'ецца крыніцай жыццё:
забыццё...

Што далей — то дзічэй, дзічэй
у бязлюддзі начэй.
Без тваіх, Беларусь, вачэй
не лягчэй.

Станем зморанім воблакам —
зсірацее Сусвет.
Пашкадуйце чарнобылку,
вочы добрых планет!

## На вулкане

Вільнюс. Рыга. Стрэлы. Папялішча.
Ля мяне дурная куля свішча,
Ацалеў. А новая цаляе.
Разінская вольніца гуляе!
Адурнелі людзі, Ачмурэлі.
Раскачалі смертухны арэлі.
Баявік страляе угарэлы.
Дзе вы, песні!
Стрэлы...
Стрэлы...
Стрэлы...
Зноў мне ў кратэр азвярэлай злобы!
Цэліцца разбойнік вузкалобы.
Праўда!
Справядлівасць!
Божы розум!
Кроў яшчэ крывавей ад марозу.
Зеўрыцца Гісторыя удова.
Як трагічна йдзе Перабудова.
З пераломкай ходзіць перастрэлка.
Проста ў сэрца упілася стрэмка.

Дзе ён, Бог!
А дзе благаславенне!
Загусцела кроў у чорнай пене.
За каго я!
За жыццё і волю!
І не гільзы — зерне дайце полю.
Дайце, людзі, прарасці, спагадзе:
— Мір армянскай,
асецінскай хаце!
Кожнаму — разумнае аблічча!
Порах
кулі
ў свае гнёзды кліча.

## Судны дзень

Сыходзяць дні.
Я ў іх нязнаным госцем.
Камп'ютэры, правёўшы свой падлік,
набыткі маёй долі ускалосяць,
запішуць на фінал: «Быў... Пан... і знік».

Паўстане суд за годы недароду
і за грахі усіх маіх згрызот.
— Каму служыў!
Скажу я, што — Народу...
Але ж ці быў Гаспадаром
Народ...

*Да з'езда ТБМ імя Ф. Скарыны*

# НА РОЗНЫХ МОВАХ




За два гады, што прайшлі з дня ўтварэння Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, зроблена мо і нямала, калі браць адлік ад нуля. ТБМ перш за ўсё аб'яднала людзей, якім неабыякавы лёс беларускага народа, яго будучыні, яго мовы як галоўнай рысы нацыянальнай самабытнасці. У абласцях, у раёнах Беларусі за гэты час утварылася шмат суполак, што аб'ядналі свядомых беларусаў і далі мажлівасць прапагандаваць ідэі адраджэння беларускай мовы і культуры шырока і адкрыта, не баючыся рэпрэсій.

Напэўна, не без уплыву і шырокай падтрымкі ТБМ беларуская мова ўрэшце набыла статус дзяржаўнай. Гэта вялікая заваёва ўсёй беларускай грамадскасці, усіх яе сумленных і шчырых грамадзян, якія ўзнімалі свой голас за тое, каб беларуская мова загучала на дзяржаўным узроўні, каб яна была ўзята пад абарону закона, а не была падчаркай у сваім уласным доме.

Разам з тым за гэтыя два гады мы наглядзеліся і на такое, што прымушала нашы сэрцы і розум пратэставаць і абурацца, пытаць у сябе, дзе мы жывём? У які час і якую эпоху? Бо яшчэ і сёння ў рэспубліцы, на вялікі жаль, актывістаў ТБМ трактуюць як заядлых нацыяналістаў, экстрэмістаў, звальняюць з работы, паніжаюць на службе, ствараюць атмасферу траўлі і цкавання — каб чалавек не вытрымаў і пайшоў хоць куды, абы не мазоліў вачэй нейкаму там начальніку, які думае і глядзіць на свет па-ранейшаму, па-сталінску, па-імперску.

Лідэры краіны за гады перабудовы не падумалі аб тым, што трэба вырашаць не толькі эканамічныя, але і палітычныя, а, перш за ўсё, нацыянальныя праблемы, якія за апошнія дзесяцігоддзі зайшлі ў тупік. Распрацоўкай палажэнняў аб новым статусе саюзных рэспублік, аб іх суверэнітэце — не папяровым, а рэальным — трэба было заняцца адразу. Магчыма, не абудзіліся б усе тыя цэнтрабежныя сілы, якія сёння раздзіраюць Саюз на часткі. Не словамі-заклікамі трэба было ўтрымліваць рэспублікі, а канкрэтнымі разумнымі мерамі па дэцэнтралізацыі, па ліквідацыі дыктату Цэнтра, па перадачы рэспублікам права і магчымасці самастойна вырашаць свае праблемы — без агляdкі на ранейшы Цэнтр.

У нацыянальным пытанні Цэнтр фактычна застаўся на старых сталінскіх, імперскіх пазіцыях. І толькі праз шэсць год перабудовы ўрэшце выпрацаваны праект Саюзнага дагавору, які гарантуе кожнай рэспубліцы незалежнасць, а СССР будзе саюзам суверэнных дзяржаў, а не саюзам рэспублік. Калі так будзе — хвала Усявышняму, але чаму так доўга мы да гэтага ішлі, шмат чаго разгубіўшы па дарозе?

Але апусцімся ніжэй, на нашу беларускую зямлю. Пройдзем па плошчах і вуліцах Мінска, зойдзем ва ўстановы, высокія ці меншыя, у Вярхоўны Савет ці ЖЭС. Ці пачуем мы там роднае слова? Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы прыняты з першага верасня леташняга года. Але ці відаць зрухі ў кірунку пашырэння сферы ўжытку роднае мовы? Зусім мізэрныя, зусім нязначныя. Нашы вярхі не гатовы гаварыць са сваім народам на роднай мове. Мо таму і няма шчырага паразумення, няма добрага кантакту ў нашых вярхоў і нізоў,— нібы між імі стаіць нейкая нябачная, але трывалая сцяна. Так-так, яна ёсць, і яна будзе датуль, пакуль нашы кіраўнікі высокага рангу не спусцяцца са сваіх вышынь на грэшную зямлю і не загавораць са сваім народам на матчынай мове, гэта значыць, на дзяржаўнай, беларускай.

Старшыня Савета Міністраў БССР Вячаслаў Кебіч стаяў на плошчы Леніна перад шматтысячным натоўпам, перад ім быў мікрафон, ён мог звярнуцца да народа са шчырым словам на роднай мове — і народ яго прыняў бы, народ яго зразумеў бы.

У нашага ўрада няма ўзаемаразумення з народам не толькі па чыста адміністрацыйнай лініі, але няма душэўнай, чыста чалавечай сувязі — і ўсё з-за таго, што яны гавораць між сабой на розных мовах. І нават чарнобыльская катастрофа, якая яшчэ больш падарвала веру нашага народа ў свой родны ўрад, была б не такая страшная, каб народ бачыў, што яго ўрад разам з ім. Народ даўно чакае ад свайго ўрада праўды — даволі таго, што дзесяцігоддзямі яго ашуквалі, хлусілі з самых высокіх трыбун.

Тое, за што пачынаў барацьбу БНФ, за што змагалася ТБМ, сёння прадоўжыў беларускі рабочы клас, выйшаўшы на плошчы і вуліцы. Да яго голасу павінен прыслухацца наш урад. Інакш ён размінецца са сваім народам.

Што датычыць ТБМ, то яно таксама будзе шукаць адказу на пытанні, што ставіць перад намі жыццё. Яно хутка збярэцца на свой другі з'езд, дзе падвядзе вынікі працы за два гады, вызначыць новыя задачы, якія нам усім трэба будзе вырашаць, каб працэс беларусізацыі, як гаварылі ў 20—30-я гады, ішоў хутчэй і ахопліваў усе сферы нашага жыцця.

Уладзімір **ДАМАШЭВІЧ**,
сябра Рады ТБМ.

ДУМКА ЧЫТАЧА

# ЦАГЛІНКІ З РАЗБУРАНАЙ КАПЛІЦЫ

Магчыма, для некага падасца смешным, але час ад часу я задаю сабе пытанне: «Што такое культура?» Дакладней, гэта пытанне мне задае само жыццё. І па-мойму, сёння мала хто ведае адказ на гэта пытанне, хоць няма, відаць, такога чалавека, які б не лічыў сябе культурным. Ды і тое ж! Куды ні кінь вокам — «Дом культуры», «Палац культуры», «Інстытут культуры», «Дом узорнага парадку і культуры», а паркаў культуры дык і не пералічыць. Галоўнае ж — у нас ёсць Міністэрства культуры, па ініцыятыве якога з падтрымкай творчых саюзаў рэспублікі і па ўзгадненні з адпаведнай камісіяй Вярхоўнага Савета БССР быў падрыхтаваны праект Закона Беларускай ССР «Аб культуры ў БССР», які ўжо прыняты ў першым чытанні.

Існаванне такога закона вельмі неабходна ва ўмовах абвешчанага суверэнітэту рэспублікі, пераходу на рыначную эканоміку, адраджэння гісторыі і культуры Беларусі. Праект закона з'явіўся ў рэспубліканскім друку на пачатку кастрычніка мінулага года, але, на жаль, па сённяшні дзень я зусім мала сустрэкаў водгукаў на гэты дакумент. Ці то я дрэнна чытаю газеты, ці то людзям цяпер не да культуры, ці наогул ніхто не ведае, што такое культура? І я, каб разабрацца, прачытаўшы праект Закона «Аб культуры ў БССР», не стаў спяшацца адразу да міністра са сваімі вострымі пытаннямі, а вырашыў спачатку крыху пахадзіць па горадзе і паразмаўляць з людзьмі.

Ідучы па Ленінскім праспекце, у першага сустрэчнага, які мне падаўся культурным чалавекам, спытаўся: «Што такое культура?». Той разгублена спыніўся, нібыта я сказаў: «Вы арыштаваны», і адказаўшы: «Я не мясцовы», хутчэй знік у натоўпе. Я спытаў у другога. Ён, доўга не думаючы, буркнуў: «А Бог яго ведае». Спытаў у трэцяга. «Культура — гэта тэатр, кіно, мастацтва...» — адказаў ён. Чацвёрты адказаў пытаннем: «А ці культурна спыняць людзей і задаваць дурныя пытанні?» Тут ужо і я разгубіўся. Запытаўся ў старэнькай, згорбленай жанчыны, якая ў бруднай сетачцы несла пустыя бутэлькі. Жанчына здзіўлена паглядзела на мяне і сказала: «Дасі рубель, скажу». Я абяцаў даць, і яна сказала: «Культуры няма». «Як гэта няма?» «А вось так. Няма і ўсё. Давай рубель...»

А па праспекце ішлі і ішлі людзі. Адны спыняліся ля кіёскаў, куплялі газеты, чыталі. Другія спыняліся ля аўтобусных прыпынкаў, курылі, лаяліся, плявалі пад ногі. Прыходзіў аўтобус, лезлі ў яго, нібыта ён быў апошні. Трэція заходзілі ў гастраномы, кідаючы ля перапоўненых сметніц недакуркі, паперкі з-пад марожанага і цукерак... А я ўсё пытаўся і пытаўся: «Што такое культура? Ці чыталі вы праект закона аб культуры?»

І прыпомнілася мне вёска, у цэнтры якой стаяў клуб. Клуб той даўно разваліўся, і бярвенні расцягнулі на свае патрэбы калгаснікі. Гадоў пяць назад быў збудаваны ўжо не клуб, а Дом культуры. Першае, што кідалася ў вочы — вялікі плакат: «Добро пожаловать». На сценах вузкіх паўзмрочных калідораў віселі стэнды, па якіх можна было даведацца, хто ў калгасе добры працаўнік, а хто — дрэнны. Тут жа калгасная насценная газета, у якой высмейваліся апівохі. Бібліятэка не працавала, а ў зале, дзе адбываюцца культурныя мерапрыемствы, першае, што кідалася ў вочы,— пустая пляшка каля сцэны. У праходах паміж крэсламі валяліся шалупінне ад семак, паперкі ад цукерак, парваныя білеты ў кіно. На шырокай сцэне перад бюстам Леніна — сталы і крэслы для прэзідыума. Тут жа трыбуна і графін з пажаўцелай вадой, у якой плавалі мухі...

Прыгадваючы ўсё гэта, міжволі падумаў: «Прыме Вярхоўны Савет БССР закон аб культуры, а што гэта дасць?..»

З усіх саюзных рэспублік найбольш праблем у развіцці нацыянальнай культуры ў нас, беларусаў, бо мы, як ніводны іншы народ, за апошнія дзесяцігоддзі «выдатна» рыхтаваліся да «зліцця нацый». І таму прыняты ў першым чытанні закон аб культуры абнадзейваў. Думалася, што з прыняццем закона будзе вырашана шмат пытанняў. Але, уважліва чытаючы праект закона, заўважаеш, што зноў мы, якія ўжо раз, самі сябе пераконваем у важнасці культуры, захаванні яе помнікаў і здабыткаў. Пара ўжо ад слоў пераходзіць да справы.

Лёс культуры залежыць ад лёсу кожнага творцы. Сёння ж многія аказаліся бездапаможнымі перад навалай камерцыі і прыватызацыі. Праўда, у законе аб культуры ёсць артыкулы, у якіх абяцаюцца падтрымка і льготы. А як будзе на самай справе — цяжка сказаць, бо колькі ўжо прынята выдатных законаў, а ці многія з іх дзейнічаюць?

На пасяджэннях Вярхоўнага Савета БССР нямала гаворыцца пра неабходнасць адраджаць родную мову, з большай павагай ставіцца да дзеячаў культуры. Праўда, усе гэтыя ўсхваляваныя прамовы пакуль што не прынеслі амаль ніякага плёну. І ўжо хутка будзе год, як прыняты «Закон аб мовах у БССР», але чым больш праходзіць часу, тым усё больш гэты закон адыходзіць у гісторыю. І можа здарыцца самае страшнае, што праз некалькі гадоў мы будзем толькі ўспамінаць, які быў гэта цудоўны закон. Можа, гэткі лёс наканаваны і закону аб культуры, бо дзе гарантыя, што на яго ажыццяўленне будзе выдзелена дастаткова сродкаў?..

Гэта ж толькі дзякуючы шматгадовым, настойлівым клопатам грамадскасці, «нефармальных» аб'яднанняў, веруючых некаторыя помнікі культуры не зніклі з твару зямлі. Маю на ўвазе Мірскі замак, Сынковіцкую царкву, Чырвоны касцёл і царкву Марыі-Магдалены ў Мінску. На сродкі калгаса-аграфірмы «Беларусь» мяркуецца рэстаўрыраваць замак у г. п. Косаве. Але многія помнікі гісторыі і культуры, нацыянальныя паркі яшчэ ўсё чакаюць нашай увагі.

Чакаюць увагі і Кальварыйскія могілкі. Дакладней, магіла Янкі Лучыны. На ёй я ніколі не бачыў кветак. А побач — помнік бацьку Лучыны. Ён пахіліўся і ў любы момант можа ўпасці на магілу сына. Пад помнікам разваліўся падмурак, і толькі некалькі цаглінак, прынесеныя вернікамі з разбуранай капліцы, дэ пары да часу трымаюць яго.

Але ці доўга гэтыя цаглінкі будуць служыць выратаванню нашай культуры?

**Віктар ШНІП.**

●

**АД РЭДАКЦЫІ.** Матэрыял гэты быў падрыхтаваны да друку напярэдадні прыняцця Закона аб культуры ў БССР, калі абмяркоўваўся праект яго. Тым не менш мы вырашылі надрукаваць яго. Бо гаворка ў ім тычыцца не толькі артыкулаў закона.

ВЫСТАВЫ

# «Майстар і традыцыя», «Пошук і эксперымент»

Супадзенне гэтых назваў на афішах і гэтых экспазіцый у залах Палаца мастацтваў падаецца загадзя запланаваным. Нібыта нехта парупіўся, каб аматары мастацтва маглі ахапіць вокам абодва полюсы культурнага працэсу. Аднак супадзенне гэтае чыста выпадковае, тым не менш яно дае падставы паразважаць і пра традыцыю і пра эксперымент.

Выстава «Майстар і традыцыя» наладжана Навукова-даследчай мастацка-эксперыментальнай лабараторыяй — установай, якая займаецца вывучэннем народнай творчасці і праектаваннем на гэтай аснове прамысловых узораў. Да таго ж мастакі лабараторыі робяць сёе-тое і «для душы», па-за межамі планавых распрацовак. І адно і другое прадстаўлена ў экспазіцыі. Многія творы наведвальнікі з радасцю набылі б для хатняга ўжытку, для аздобы кватэры. Так, ёсць і майстэрства і творчае развіццё традыцыі. А тое, што прамысловасць не заўжды здольная рэалізаваць творчыя распрацоўкі, дык гэта не ад мастакоў залежыць. У некім сэнсе выстава — агляд таго, з чым мастацкая прамысловасць ідзе да рынку. І тут адпаведна паўстае пытанне пра кошт — сыравіны, працы, творчай ідэі. Але, зноў жа, гэтае пытанне — за межамі экспазіцыі.

«Пошук і эксперымент»... Мне падалося, што ёсць неадэкватнасць назовы экспазіцыі і яе зместу. Тое, што я там пабачыў, можна было б лічыць эксперыментам гадоў гэтак пяць-шэсць назад. І ці не надта часта мы карыстаемся словам «эксперымент», калі проста не можам знайсці ці не жадаем шукаць больш дакладнае вызначэнне? Усё ж такі эксперымент — гэта этап у распрацоўцы ідэі, а не тое, што «захацелася маёй левай назе». Эксперымент — гэта сродак пазнання. Ён, зрэшты, павінен мець нейкую акрэсленую мэту. Мне ж падалося, што сёй-той з удзельнікаў выставы названыя акалічнасці ігнаруе, а можа, і ўпершыню пра іх чуе. А калі ж успрымаць экспазіцыю саму па сабе, не зважаючы на афішу — дык гэта нармальная мастацкая выстава, дзе ёсць творы на ўсе густы.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**



Т. ВАСІЛЬЕВА. «Вялікая Венера».



В. ЯНУШКЕВІЧ. «Вітаўт Вялікі».



Фрагмент экспазіцыі «Майстар і традыцыя».



У. ТОЎСЦІК. «Праз стагоддзі».



А. НАЗАРАНКА. «Дзяўчына і птушка».

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# Якой была вайна 1812 года для Беларусі?

У падручніку па гісторыі БССР напісана аб вайне 1812 г. наступнае: «У канцы лістапада 1812 года Беларусь амаль поўнасцю была вызвалена ад французскіх захопнікаў. Сваім вызваленнем беларускі народ абавязаны гераічнай барацьбе вялікага рускага народа і рускай арміі». Хацелася б больш падрабязна спыніцца на гэтым «вызваленні», пра тое, што прынеслі беларускаму народу вайна 1812 года і першыя пасляваенныя гады.

Напалеон рыхтаваўся да вайны з Расіяй, якая і пасля паражэння пад Аўстэрліцам у 1807 годзе заставалася для французскага імператара галоўнай перашкодай на шляху да сусветнага панавання. «Я буду гаспадаром свету,— казаў ён, — застаецца адна Расія, але я раздушу яе». Не трэба было мець вялікі розум, каб бачыць планы Напалеона. Ведаючы, што маскоўскія парадкі (пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795) не падтрымліваюць ні беларускія дваране, ні мяшчане, ні дробная шляхта, разумеючы нетрываласць свайго становішча ў Беларусі, Аляксандр І вырашыў пад апекаю Расіі аднавіць Вялікае княства Літоўскае. Ён спадзяваўся, што гэтая акцыя выкліча вялікі ўздым патрыятычных сіл, пачуццё ўдзячнасці да Расіі і адыграе важную ролю ў барацьбе з Напалеонам. У 1811 годзе пачаліся перагаворы паміж Масквою і беларускімі магнатамі на чале з князем Міхаілам Агінскім, на якіх абмяркоўваўся падрыхтаваны беларускай дэлегацыяй канстытуцыйны праект аднаўленага Вялікага княства Літоўскага. Гэты праект быў распрацаваны на аснове трэцяга выдання Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года. Адно з галоўных дапаўненняў—параграф аб поўным вызваленні беларускіх сялян ад прыгону на працягу наступных дзесяці гадоў. Аб перагаворах ведалі даволі шырокія колы беларускай грамадскасці.

Аднак канчаткова вырашыць усе пытанні аднаўлення дзяржаўнасці Княства абодва бакі не паспелі, французы пачалі вайну значна раней, чым чакалася. Акупацыя беларускіх зямель французскімі войскамі была сустрэта рознымі нацыянальнасцямі былога Вялікага княства Літоўскага па-рознаму. Сучаснік тых падзей піша, што «рускія чыноўнікі, захапіўшы з сабой казённыя грошы серабром ды золатам і ў паперах, а таксама ўсе паперы, якія змаглі б даць ворагу звесткі аб сродках краю і тым самым аблегчыць яму раскладку падаткаў, збеглі ў межы Расіі».

Яўрэі аднесліся да прыходу французаў спакойна. Свайго пастаяннага месца жыхарства яны не пакідалі, больш таго, спадзеючыся, што пры новых гаспадарах змогуць добра ўладкавацца і мець з ваенных абставін для сябе выгады, яны з гатоўнасцю прапаноўвалі свае паслугі напалеонаўскім войскам і ўстаноўленаму імі кіраўніцтву.

Польскае і паланізаванае насельніцтва сустрэла французаў з захапленнем, бачачы ў іх сваіх вызваліцеляў ад рускага ўладарання.

Асноўная ж частка насельніцтва—беларусы — не падтрымлівалі Напалеона. Сяляне таму, што не маглі зміръцца з марадзёрствам французскіх салдат. Іншыя сацыяльныя групы былі незадаволены парадкамі, якія заводзілі французы на захопленых землях. Напалеон, як і Аляксандр І, таксама меў план «аднаўлення» беларускай дзяржаўнасці, толькі рабіў гэта па-свойму. Не ўпэўнены ў канчатковай перамозе над Расіяй, ён стварыў на захопленай тэрыторыі два беларускія дзяржаўныя аб'яднанні. Адно з іх атрымала назву «Літва», куды ўвайшлі Віленшчына, Меншчына, Беласточчына і Гародзеншчына (прычым да «Літвы» адышлі толькі беларускія землі; балцкія Сувалшчына і Жмудзь не ўвайшлі ў гэтае аб'яднанне). Другое было названа «Беларусь», якое склалі ўсходнія беларускія землі. У выпадку няўдачы ў вайне з Расіяй Напалеон меркаваў дзеля замірэння аддаць ёй «Беларусь», а «Літву» захаваць пад сваёй апекай. Безумоўна, такая двурушніцкая палітыка Напалеона, падзел беларускіх зямель не маглі задаволіць беларускую грамадскасць, якая марыла і імкнулася да адзінства сваёй дзяржавы.

Тым не менш у «Літве» была створана адміністрацыя, урад, сталіцай была абрана Вільня. У «Беларусі» ж, цэнтрам якой стаў Магілёў, з-за блізкасці ваенных дзеянняў і кароткага тэрміну існавання амаль ніякіх змяненняў на адбылося. Іх, зрэшты, і не магло быць, бо прадстаўнікам гэтага аб'яднання напалеонаўскі маршал Даву адно заявіў: «Напалеон патрабуе ад вас толькі трох рэчаў: хлеба, хлеба і хлеба».

Але ўжо восенню 1812 года маскоўскія войскі пераможна гналі французаў назад. Замацавацца, як думаў Напалеон, хоць бы ў Заходняй частцы Беларусі, пасля вялікіх страт на Бярэзіне, ён ужо не мог. Хутка ўсе нашы землі зноў адышлі да Расіі. Касметычная незалежнасць «Літвы» і «Беларусі», створаных Напалеонам, была ліквідавана, а нацыянальны ды эканамічны прыгнёт нашага народа стаў яшчэ цяжэйшы, чым у даваенны час. Дарэмна беларускія прадстаўнікі рабілі ўсё, каб аднавіць перамовы, пачатыя ў 1811 годзе. Цяпер маскоўская дзяржава і слухаць гэтага не хацела. Аляксандр І адмовіўся нават сустрэцца з беларускай дэлегацыяй. У яго былі ўжо іншыя погляды на гэту справу: знішчыць усякую ідэю аднаўлення беларускай дзяржаўнасці і з дапамогай жорсткай русіфікацыі перарабіць беларусаў на расейцаў. З гэтага часу пачынаецца праслед усяго беларускага. Забараняецца выкладанне на беларускай мове ў школах, дзе замест яе гвалтоўна ўводзіцца руская. Зачыняюцца беларускія вышэйшыя навучальныя ўстановы: спачатку ў 1820 годзе ў Полацку, а затым у 1832 годзе ў Вільні. Так на Беларусі не стала ніводнай вышэйшай навучальнай установы, хоць прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі неаднаразова прасілі дазволу адчыніць універсітэт хоць бы за свой кошт. Працягам гэтай палітыкі рускага ўрада з'явіўся загад 1840 года, які забараняў карыстацца ў судах літоўскім Статутам. Акрамя таго, старадаўняя назва нашай Бацькаўшчыны — Літва — была заменена нават не на Беларусь (такая назва таксама была ўжо ў карыстанні нашага народа), а на Паўночна-Заходні край. Адначасова пачалася свядомая прыпіска назвы Літва да балцкай Жмудзі, якая за ёй захавалася і да нашых дзён. Такім чынам мы страцілі сваю гістарычную назву Літва, яе набыла цяперашняя Летува, якая ў Вялікім княстве Літоўскім называлася Жмуддзю. Але ж беларусы не павінны выракацца сваёй слаўнай гістарычнай назвы Літва, тым больш перадаваць яе Жмудзі, якая, будучы невялікай часткай Вялікага княства Літоўскага, увесь час з гістарычнаю Літвою варагавала.

Гэты час характарызаваўся яшчэ і масавым наплывам на Беларусь тысяч маскоўскіх чыноўнікаў ды дваран, якія рабілі ўсё, каб родная «русская речь» загучала на беларускіх землях.

Тым часам жыццё беларусаў значна пагоршылася. Мясцовыя гарадскія самаўрады ў гарадах, што мелі магдэбургскае права ўсюды ліквідоўваліся, на мяшчан павялічваліся падаткі, прыгонны ўціск на сялянства ўзмацняўся. Расійскія багацеі скуплялі беларускіх сялян на цяжкія часовыя работы ў Расію. Гэтыя нявольнікі ў асноўным працавалі на збудаванні каналаў, пракладцы чыгунак, у шахтах. Эканамічнае становішча Беларусі значна пагоршылася, і «Паўночна-Заходні край» стаў занядбанай правінцыяй расійскай імперыі.

**М. ЦУБА,**
**навуковы супрацоўнік Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея.**

## БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

«Ад кастрычніка 1917 да лютага 1918»... Такі назоў меў артыкул Змітцера Жылуновіча, надрукаваны ў 20-я гады ў «Полымі». Аўтар гэтае публікацыі таксама вырашыў прасачыць ходу падзей у той суровы час, калі востра паўстала пытанне, быць Беларусі ці не быць.

Каштоўнасць працы Васіля Абразоўскага ў тым, што ён, бадай, упершыню ў Савецкай Беларусі не баіцца даваць яўныя і схаваныя цытаты з публікацый непасрэдных удзельнікаў падзей — Язэпа Варонкі, Кастуся Езавітава, Аляксандра Цвікевіча ды іншых, — не ігнаруючы пры гэтым і другі бок.

Вядома, можна было б сказаць маладому даследчыку (ён — яшчэ студэнт), што не ўлічаны, прыкладам, успаміны Васіля Захаркі, дык яны ў Лондане. Не ўлічаны публікацыі «Вольнай Беларусі», «Белорусской Рады», дык яны чамусьці сталі ўласнасцю КПБ і схаваны ў фондах Інстытута гісторыі партыі.

Не ставячы цяпер пытанне аб перадачы гэтых нацыянальных — не партыйных — каштоўнасцяў у дзяржаўныя архівы, я спадзяюся, што Васіль Абразоўскі не стане для Інстытута гісторыі партыі персонаю нон грата, што яго дапусцяць да старых газет. (Спадзяюся, што калі-небудзь і мяне дапусцяць).

А пакуль што, паважаныя чытачы, вы маеце справу з дэбютам гісторыка, які хоча даследаваць перыяд ад лютага 1917 да сакавіка 1918 года. Пажадаем яму ўдачы.

Анатоль СІДАРЭВІЧ.

Васіль АБРАЗОЎСКІ

# Ад кастрычніка 1917-га да лютага 1918-га

## Хроніка падзей

...Белоруссия является разительным примером того, как гибельно для народа хозяйничанье людей чужих... Белоруссия по-прежнему наводнена чиновниками-обрусителями столыпинского типа, проводящими в стране старую разрушительную политику. Администрация, школа, суд, все стороны общественно-политической жизни страны требуют коренного изменения, а его нет и не будет до тех пор, пока дело устроения края не перейдет в руки самой нации, имеющей право устроения своей судьбы...
Іван КРАСКОЎСКІ. З прамовы на «Государственном совещании» 12—15 жніўня 1917 года.

У КАСТРЫЧНІКУ 1917 года на абшарах былой Расійскай імперыі скlаліся надзвычай складаныя абставіны. Часовы ўрад ужо не меў ніякай магчымасці кіраваць гэтым монстрам. Рабочыя адмаўляліся працаваць, армія да вайны была няздольная, і вайскоўцы паціху разбягаліся. Шырыўся нацыянальна-вызваленчы рух на ўскраінах, які праяўляўся ў стыхійным гуртаванні вайскоўцаў па нацыянальных прыкметах, у патрабаваннях незалежнасці ці аўтаноміі. Найбольш гэта было бачна сярод фінаў, палякаў, латышоў, украінцаў. Гаворачы ленінскімі словамі, вярхі ўжо не маглі, а нізы не хацелі.

У гэтай усеагульнай анархіі ўсё большую ролю ігралі бальшавікі. Перш за ўсё яны вабілі народ сваімі абяцаннямі спыніць вайну, накарміць галодных, даць нацыям права на самавызначэнне і г. д. Ленінская партыя, разумеючы, што найбольш спрыяльныя ўмовы для захопу ўлады з'явяцца ў час распаду імперыі і менавіта нацыянальна-вызваленчы рух паярэмленых народаў будзе прычынаю гэтага распаду, адразу ўзяла на ўзбраенне лозунг самавызначэння народаў.

**«Социал-демократическая партия безусловно должна отстаивать это право (на самоопределение). Этого требует дело свободы самого великорусского населения, которое не в состоянии создать демократическое государство, если не будет искоренен черносотенный великорусский национализм». (Лета 1913 года, нарада ЦК РСДРП (б), рэзалюцыя).**

**«...не надо бояться отдельных республик. С точки зрения рабочих и крестьян это не страшно. Пусть Россия будет союзом свободных республик» (У. Ленін. Поўны збор твораў. Т.32, с.286).**

**«...немедленное восстановление ПОЛНОЙ свободы для Финляндии, Украины, Белоруссии, для мусульман и т. д.» (Тамсама. Т. 34, с.299).**

Часовы ўрад ніяк не хацеў адысці ад палітыкі вялікарускага шавінізму і на словах, і ў дзеяннях. Ён і надалей стаяў на варце інтарэсаў «адзінай і непадзельнай». Керанскі ў адказ на прад'яўлены Цэнтральнай Радай беларускіх арганізацый і партый (ЦРБАП) пастулат аўтаноміі Беларусі заявіў: «Россия — не этнографический музей!» Беларусы, нягледзячы на іх настойлівыя клопаты, не атрымалі нават права на арганізацыю беларусаў-вайскоўцаў у зямляцтвы.

Таму зусім зразумела, што беларускія дзеячы *былі незадаволены палітыкай* Часовага ўрада. Нягледзячы на насцярожваючыя крокі бальшавіцкіх арганізацый на Беларусі (імкненне стварыць органы ўлады і самакіравання з вайскоўцаў небеларускага паходжання, спробы абвясціць іх адзінымі выразнікамі волі беларускага народа, не зважаючы на сапраўднае становішча і мэты тутэйшага насельніцтва), беларускі рух з надзеяй паглядаў у бок РСДРП(б) і не дапамагаў ураду Керанскага.

25 кастрычніка, у сувязі з пераваротам у Петраградзе, заварушыліся й бальшавіцкія арганізацыі на Беларусі. Мінскі Савет вайскоўцаў і бальшавікоў узяў уладу ў горадзе, спыніў паўнамоцтвы гарадской Думы — «как выразительницы власти буржуазии». І гэта нягледзячы на тое, што Дума была абрана ў жніўні 1917 года на асновах усеагульнага, роўнага, прамога і патаемнага галасавання. У той жа дзень на мітынгу камендантам гарнізона быў прызначаны Крывашэін. (Вельмі цікавая форма — назначэнне на пасаду на мітынгу!)

Супраціўленне бальшавікам паспрабавалі аказаць прадстаўнікі старой улады, у асноўным малодшыя афіцэры. 28 кастрычніка Магілёўскі Савет асудзіў выступленне бальшавікоў, а «Камітэт выратавання Радзімы і Рэвалюцыі» выказаўся супраць перавароту ў Петраградзе і на Заходнім фронце.

Бальшавікі заключылі пагадненне з Камітэтам, тым часам выклікаўшы ў Мінск бліндараваны цягнік, бранявік і 60-ты Сібірскі полк. Была агалена і без таго нешматлюдная лінія Заходняга фронту. Цягнік пад камандай Пралыгіна, салдата-бальшавіка, 1 лістапада рушыў з раз'езда Хвоева. Сябры «Камітэта Выратавання» спрабавалі стварыць перашкоды на чыгунцы. Але «геройски действовавший товарищ Пролыгин» выйшаў з гэтага становішча. Ён заявіў чыгуначнікам: «Если где будет закрыт семафор и не подготовлены стрелки, буду считать, что станция занята нашими противниками и **стану расстреливать, начиная со стрелочных будок и кончая всем окружающим!»** І папрасіў перадаць гэта па лініі чыгункі. На станцыі Койданава Пралыгін змяніў парадак руху цягнікоў на Мінск, падставіўшы санітарны цягнік з паранен*ымі пад міну «Камітэта Выратавання»*, якая была падрыхтавана бальшавіцкаму цягніку (параненыя, праўда, не пацярпелі). Каля 12 гадзін ночы з 1 на 2 лістапада цягнік, ашчацініўшыся гарматамі і кулямётамі, прыехаў у Мінск. З гэтага моманту перавага ў сіле была за бальшавікамі.

Тым часам у Пецярбурзе ўрадам Леніна была абвешчана «Дэкларацыя правоў народаў Расіі». У ёй было сказана, што палітыка царызму «должна быть заменена открытой и честной политикой, ведущей к полному доверию народов России». У ёй сцвярджалася, што Савецкі ўрад у аснову сваёй дзейнасці ў нацыянальным пытанні паклаў прынцыпы роўнасці і суверэннасці народаў Расіі, іх права на свабоднае самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойных дзяржаў.

Бальшавікі ж на тэрыторыі Беларусі, здавалася, ніякіх дэкларацый сваіх правадыроў не чыталі і лічылі сябе адзінымі праваздейнымі прадстаўнікамі працоўнага народа ў нашай краіне. Яшчэ 27 кастрычніка быў створаны ВРК пры Мінскім Савеце, які па сутнасці кіраваў гэтым Саветам. З прыходам Сібірскага палка мяснікоўцы пачалі больш рашучыя дзеянні. У пачатку лістапада ВРК назваў сябе «ВРК Заходняга фронту» і стаў вышэйшым надзвычайным органам улады на Беларусі і фронце. Далейшыя імкненні мяснікоўцаў былі накіраваны на замацаванне свайго ўплыву ў асяроддзі вайскоўцаў. Справа няцяжкая, таму што беларусы ў пераважнай большасці праходзілі службу на іншых франтах.

З 7 па 10 лістапада ў Маладзечне прайшоў з'езд III арміі і прыняў патрэбныя бальшавікам рэзалюцыі. 8 лістапада было спынена выданне газеты «Минская жизнь» — «как рассадника антисоветской клеветы». 17 лістапада ВРК Заходняга фронту загадам увёў дзяржаўную манаполію на друкаваныя выданні, усе газеты павінны былі праходзіць цэнзуру. З 18 па 25 лістапада ў Мінску *адначасна праходзяць* тры з'езды, скліканыя бальшавікамі: арміі Заходняга фронту, «рабочых і салдацкіх дэпутатаў Заходняй вобласці», «сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў». «Сялянскія дэпутаты», выбраныя пры непасрэдным наглядзе вайскоўцаў-бальшавікоў, прынялі мяснікоўскую рэзалюцыю: патрабавалі роспуску валасных і земскіх управ, «как не выражающих интересов крестьянства», і рэарганізацыі зямельных камітэтаў. Звычайныя вясковыя паўперы палічылі, што ўлада павінна працаваць толькі на іх карысць.

Такім чынам, бальшавікі на Беларусі дастаткова ўмацаваліся, каб абвясціць сябе адзінай уладай у краіне. У гэтым накірунку і працягвалася іх дзейнасць.

У той самы час, спадзеючыся пабудаваць самастойную Беларусь у згодзе з бальшавіцкімі дэкларацыямі, беларускія дзеячы робяць спробы стварыць свае органы ўлады, якія б абапіраліся на самыя шырокія масы працоўных, сапраўдных гаспадароў Беларусі, а не на «варагаў». Асаблівасць беларускага нацыянальнага руху: найбольш актыўна ён разгарнуўся сярод шматлікіх бежанцаў у буйных расійскіх гарадах і вайскоўцаў на далёкіх ад Беларусі франтах. Да 50—52 працэнтаў мужчынскага насельніцтва *з беларускіх губерняў было мабілізавана*. Гэта была самая актыўная і палітычна свядомая частка нашага люду.

Ужо ў маі 1917 года беларусы-вайскоўцы зразумелі, што беларускія нацыянальныя вымаганні толькі тады будуць дасягнуты, калі кожнае з іх будзе падпірацца не старанна матываванымі дэкларацыямі, а нацыянальнай сілай. На працягу якіх-колечы двух месяцаў, жніўня-верасня, уся Расійская армія пакрылася густой сеткай беларускіх вайсковых арганізацый. А ў кастрычніку нельга было назваць буйнога горада ці хоць бы адну армію на фронце, дзе б не існавала арганізацыя беларусаў. Нацыянальная свядомасць беларусаў абуджалася і на Далёкім Усходзе, і ў Туркестане, і на Каўказскім фронце. Побач з салдацкімі ствараліся арганізацыі міліцыянераў (Масква), студэнтаў (Масква), тэлеграфістаў, чыгуначнікаў (Масква, Ніжнедняпроўск), рабочых (Пецярбург, Масква, Таганрог) і г. д.

**Вядомы дзеяч Яўсей Канчар характарызаваў становішча ў лістападзе так: «Началась жестокая национальная борьба, в которой победителем явится более сильный своей организацией и своим национальным самосознанием». Цягам стагоддзяў Беларусь была пазбаўлена магчымасці мець сваёнацыянальнае кіраванне. І вось нарэшце, здавалася б, нішто не перашкаджае гэта зрабіць. Аляксандр Цвікевіч пісаў: «Мысль эта (о созыве Всебелорусского съезда. — В. А.) созревала постепенно одновременно в целой сети белорусских организаций и групп, зрела в широких массах народа, и, наконец, проявилась в «Грамаце да народу беларускага» от имени ВБР в Минске, «Декларации БОК при Всероссийском Совете Крестьянских депутатов» и в постановлениях II Белорусского съезда в Москве».**

Яшчэ 27 кастрычніка Вялікая Беларуская Рада звярнулася з «Граматай да Беларускага Народу», якая ставіла за мэту «сабраць усе жывыя сілы нашай бацькаўшчыны дзеля абароны і ўтрымання нашых вольнасцяў, здабытых крывёй мільёнаў сыноў пакрыўджанай, бяздольнай Беларусі».

Увосень 1917 года праходзяць з'езды беларусаў Заходняга, Паўночнага, Паўднёва-Заходняга, Румынскага франтоў і Балтыйскага флоту. Большай часткай імі *кіравала* Беларуская Сацыялістычная Грамада з лозунгамі аўтаноміі Беларусі, непадзельнасці яе тэрыторыі ў этнаграфічных межах, арганізацыі нацыянальнага беларускага войска, безграшовай перадачы зямлі народу і г. д.

Каля 15 лістапада выканкомы ВБР, Цэнтральнай Белвайскрады, Беларускі выканком Заходняга фронту выдаюць адозву «Ко всему народу Белорусскому». Прывяду адтуль асноўныя і найбольш цікавыя выказванні:

**«Для Белоруссии, как страны, разорванной фронтом, наиболее задетой войной, немедленное заключение мира является краеугольным камнем всей политики... Белоруссия должна быть демократической республикой, спаянной с Великороссией и другими соседними республиками России на основе федерации... Вся власть в Белоруссии должна принадлежать Краевой Раде, избираемой на основе всеобщего, равного, тайного и пропорционального голосования... Никаких таможенных границ между Белоруссией и другими республиками Российской федерации не должно быть... Белорусский народ не может допустить, чтобы край его был разорван на части и разделен державными соседями при подписании мирного договора. Для защиты своего права белорусский народ должен иметь на мирном конгрессе своих правомочных представителей...» Вялікая Беларуская Рада звярталася да ўсяго беларускага народа з заклікам узяць у свае рукі кіраванне сваім краем. «Чтобы создать такую власть в центре и на местах... созывается на 5 декабря 1917 года съезд представителей всего белорусского народа в городе Минске».**

Прыкладна ў гэты ж час у Пецярбурзе ствараецца Беларускі Абласны Камітэт пры Усерасійскім Савеце Сялянскіх Дэпутатаў на чале з Я. Канчарам. 17 лістапада ён выдае «Дэкларацыю...», у якой абвяшчае, што «взял на себя... почин в организации трудового белорусского крестьянства вокруг идеи образования Автономно - Свободной Белоруссии...» БАК вызначыў іншую дату з'езда, што адбылося з-за раскіданасці беларускіх арганізацый і несістэматычных кантактаў паміж імі. Але гэтая недарэчнасць трохі пасля выправілася сама сабой.

Тым часам камісары спешна імкнуліся стаць адзінай уладай у Краі. Каля 20 лістапада адбылося першае сур'ёзнае сутыкненне цэнтральнага СНК з беларускім рухам. У Стаўку Вярхоўнага Галоўнакамандуючага ўступіў Крыленка і забараніў фарміраванне беларускіх вайсковых злучэнняў, у тым ліку і Мінскага Беларускага палка, існаванне якога дазволіў яшчэ Духонін. 23 лістапада Крыленка выдаў загад аб фарміраванні нацыянальных вайсковых часцей паводле класавага прынцыпу, але гэты загад не быў абвешчаны, таму што не спадабаўся Леніну. Але ўсё ж 24 лістапада ў вагоне Крыленкі ў Віцебску група членаў беларускага вайсковага з'езда Паўночнага фронту на чале з паручнікам Езавітавым вырвала ад Галоўкаверха дазвол на фарміраванне 1-га Мінскага Беларускага палка і вымусіла яго падпісаць адпаведную тэлеграму ў Мінск.

У гэты ж час мяснікоўцы, нягледзячы на адсутнасць падтрымкі сярод мясцовага насельніцтва, заканчваюць фармі-

